22 студзеня 2016 | № 3 (468)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

«БАСКІ» — FOREVER!
стар. 7–10

4 МЫ ЎСЕ САЎДЗЕЛЬНІКІ ЗАБОЙСТВА



Зімбабвэ дэ-факта ўвяла мараторый на смяротнае пакаранне, таму што там няма людзей, гатовых выконваць прысуды. У Беларусі ў гэтым годзе ўжо з'явіўся першы асуджаны да смерці

5 АСЦЯРОЖНА, ЕЎРОПА ЗАЧЫНЯЕЦЦА!

Закрыццё дзвярэй перад бежанцамі, у якім многія каментатары ў байнэце бачаць вырашэнне еўрапейскага міграцыйнага крызісу, можа закрыць Еўропу і для нас саміх

13 УКРАІНА ГРЫПУЕ



Украіна зноў стала ахвярай эпідэміі грыпу, ад якога па стану на 19 студзеня ўжо памёр 51 чалавек. Пра маштабы эпідэміі і яе сацыяльна-палітычныя наступствы журналісту НЧ Алегу Новікаву распавядае кіеўскі сацыёлаг Сафія Радава

14 НЕПАПРАЎНЫ ШАСЦІДЗЯСЯТНІК ВАСІЛЬ СЁМУХА

Васілю Сёмуху — 80. Калі б Васіль Сяргеевіч пераствaрыў па-беларуску толькі Біблію ці толькі «Фаўста», то ўжо адным гэтым назаўсёды ўпісаў бы сваё імя ў гісторыю айчыннай культуры

# Дайце мёду!

**«Мядовыя гады скончыліся», — сказаў кіраўнік Беларусі прадпрымальнікам. Але адносіцца гэта да нас усіх**



Сяргей ПУЛЬША

Урад нарэшце ачомаўся ад навагодніх святаў і цвярозымі вачыма паглядзеў на тыя паказчыкі эканомікі на 2016-ты, які прынялі напярэдадні новага года за адзін дзень: з цаною нафты ў $50 за барэль, доларам па 18600 і інфляцыяй у 12%.

Міністр эканомікі Уладзімір Зіноўскі прызнаўся, што дзяржава наўрад ці здолее ўтрымаць паказчык інфляцыі ў 12% на год. Новыя прагнозы, зробленыя ўрадам, кажуць пра 18%-працэнтную інфляцыю. А скарэктаваны план дзеянняў на гэты год і далейшую пяцігодку ўнясуць на разгляд кіраўніку дзяржавы да канца гэтага месяца.

У сувязі з новымі паказчыкамі пад пагрозу ставіцца галоўная нумізматычная падзея года — дэнамінацыя беларускіх грошай. Відавочна, што праводзіць яе лепей, калі інфляцыя будзе адназначнай. Але і раней прагназаваныя 12% інфляцыі гэтаму б не перашкодзілі. А вось 18–20% (у нас інфляцыя зазвычай на пару пунктаў перавышае прагноз) ставіць пад сумнеў лёс беларускай капейкі. Можа стацца так, што яна абясцэніцца раней, чым выканае сваю функцыю.

Амаль да нуля знізіліся і спадзевы Беларусі атрымаць крэдыт ад Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця, 80% якога фармуе Расія. Намеснік міністра фінансаў РФ Сяргей Сторчак заявіў: «Мы аб'ектыўна знаходзімся ў сітуацыі, калі вымушаны будзем узяць паўзу з пункту гледжання прыняцця абавязацельстваў па новых крэдытах».

Па ягоным меркаванні, Расія ўжо і так нараздавала забагата грошай: «Буйныя абавязацельствы прынялі на сябе. А не выканаць абавязацельствы па прадстаўленых крэдытах — гэта яшчэ больш ганебна, чым не выканаць абавязацельствы па крэдытах, якія прыцягнулі. Большага сораму для любога крэдытора няма», — лічыць ён.

«У цяперашніх бюджэтных умовах, як яны сфармаваліся, прыняцце новых абавязацельстваў па прадастаўленні крэдытаў замежным пазычальнікам спалучана з падвышанымі рызыкамі і з рызыкамі невыканання гэтых абавязацельстваў у будучыні», — падкрэсліў намеснік міністра.

То бок, Расія баіцца як таго, што ёй не вернуць пазычаныя грошы, так і таго, што яна не зможа даць ужо абяцанае. Сапраўды, хто ж у такіх варунках выдае крэдыты? А таму пра ЕФСР можна забыцца.

Не ўдалося з Расіі выбіць нават такую дробязь, як зніжку па кошце на газ. З-за расійскага крызісу і нізкіх цэнаў на нафту на траціну прасеў і беларускі экспарт у РФ. Карацей, усе нашы выгоды ад Мытнага саюза, ЕАЭС і іншых інтэграцыйных утварэнняў ператвараюцца ў пшык.

Іншымі словамі, «мядовыя гады», пра якія казаў Аляксандр Рыгоравіч у дачыненні да прадпрымальнікаў, скончыліся для ўсіх. Няма расійскіх крэдытаў, няма профіту ад нафты і газу, няма звышэкспарту ў Расію, якая проста не мае грошай на набыццё беларускіх тавараў... «Шматвектарная палітыка ў адным накірунку» дае збой. А значыць, няма грошай на падтрымку прадпрыемстваў, няма грошай для бюджэтнікаў. І гэтак далей.

Відавочна, што надзвычайная сітуацыя патрабуе надзвычайных мераў рэагавання. Аднак, што дзіўна, нашы ўлады не збіраюцца рабіць аніякіх радыкальных захадаў па паляпшэнні сітуацыі!




**Надзвычайная сітуацыя патрабуе надзвычайнага рэагавання**

Той жа спадар Зіноўскі зазначыў, што пры ўсіх зменах прагнозных паказчыкаў нават горшы са сцэнароў на бягучы год не адменіць сацыяльнай падтрымкі і праграм развіцця і мадэрнізацыі.

А Нацбанк у чарговы раз уключыў «ручны рэжым кіравання» каціроўкамі валют, нагадаўшы камерцыйным банкам «добраахвотна-прымусовае» абмежаванне ўсталёўваць валютныя курсы не больш чым на 2% вышэй за сярэднеўзважаны курс на таргах валютна-фондавай біржы. Нагадаем, што рашэнне пра 2% было прынятае год таму. Рэгулятар пра яго згадаў, чым падштурхнуў народ у кірунку да абменнікаў: «Пакуль курс трымаецца».

Узнікае ўражанне, што ўлада проста застыла ў ступары і не ведае, што рабіць. Яна спадзяецца альбо на цуд, альбо на каляднае прашэнне Аляксандра Рыгоравіча да Госпада «захаваць нашую краіну такой, якая яна ёсць зараз». Але, як кажуць на Усходзе, «на Алаха спадзявайся, а вярблюда прывязвай, бо ў Алаха дзве рукі, і абедзве — твае».

Ураду трэба зразумець, што ад змены паказчыкаў і перапісвання праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на бліжэйшую пяцігодку нічога не зменіцца. Эканоміка не рэагуе на пераможныя рэляцыі і прапагандысцкія заклікі. З іншага боку, крызіс — самы час здзяйсняць структурныя рэформы, скарачаць дзяржвыдаткі, адмаўляцца ад старога і рабіць нешта новае.

Бо, калі гэтага не зрабіць, нас чакае далейшае падзенне ў прорву і сацыяльны выбух. Першыя пасвісты якога ўжо чуваць у сінявокай у выглядзе прадпрымальніцкіх сходаў і страйкаў, — нават нягледзячы на тое, што асобныя бізнес-структуры імкнуцца дамовіцца з уладаю без выхаду ІП на вуліцу. Калі далей замарожваць сітуацыю, то на вуліцах і плошчах мы дачакаемся не толькі прадпрымальнікаў.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ГОМЕЛЬ: Чарговы штраф Кастусю Жукоўскаму



**Кастусь Жукоўскі атрымаў па пошце пастанову суда Калінкавіцкага раёна аб тым, што ён прызнаны правапарушальнікам і пакараны штрафам у памеры 35 базавых велічынь.**

Чарговы буйны штраф фрылансер атрымаў па артыкуле 22.9 КаАП — незаконны выраб прадукцыі СМІ. У пастанове суда, падпісанай суддзёй Савасцянавай, адзначана, што «Жукоўскі 20.11.2015 у двары дома №8 вуліцы 60 гадоў БССР горада Калінкавічы, не маючы акрэдытацыі ў Рэспубліцы Беларусь у якасці журналіста замежнага СМІ, у парушэнне ч. 4 арт. 35 закона «Аб СМІ», праводзіў інтэрв'юіраванне грамадзян, у выніку чаго незаконна вырабіў прадукцыю СМІ». Гаворка ідзе пра сюжэт на тэлеканале «Белсат», прысвечаны падрабязнасцям рэзананснай бойкі футбольных заўзятараў, адзін з якіх быў у футболцы з выявай «Пагоні».

Такім чынам, да агульнага памеру штрафаў за 2015 год — 31,5 мільёна рублёў — у Кастуся Жукоўскага дадаліся яшчэ 7,35 мільёна.

Тым часам гэта не апошні судовы разгляд міліцэйскіх пратаколаў, складзеных у дачыненні гомельскіх журналістаў-фрылансераў за іх прафесійную працу. Мяркуецца, што днямі ў судзе Кармянскага раёна адбудзецца разгляд адміністрацыйнай справы па артыкуле 22.9 у дачыненні Кастуся Жукоўскага і Аркадзя Малыша. Жыхары Кармы мелі праблемы з пітной вадой, і калі гэтае пытанне было агучана ў СМІ — вінаватыя сталі фрылансеры.

Нагадаем, у студзені ўжо была пакарана штрафам за прафесійную дзейнасць гомельская журналістка Ларыса Шчыракова. Яна атрымала штраф у 4 мільёны 620 тысяч рублёў.

### МАГІЛЁЎ. Ва ўзбуджэнні справы адмоўлена



**Магілёўская міліцыя адмовіла ва ўзбуджэнні крымінальнай справы за спробу прадстаўнікоў ТДА «Камунальнік МК» незаконна патрапіць у кватэру галоўнага рэдактара газеты «Наш Магілёў» Ігара Барысава.**

Па заяве Барысава была праведзена праверка ўсіх абставінаў інцыдэнту, які адбыўся 13 лістапада, калі пяцёра невядомых у суправаджэнні двух супрацоўнікаў міліцыі спрабавалі патрапіць у прыватную кватэру Барысава.

Першапачаткова камунальнікі спасылаліся на тое, што робяць сезонны агляд кватэр, аднак чаму яны прыйшлі з міліцыяй і толькі да Ігара Барысава, застаецца дагэтуль пытаннем без адказу. Затым прагучала прычына ў выглядзе агляду супрацьпажарнай бяспекі, і толькі ў канцы камунальнікі зачапіліся за праверку магчымай перапланіроўкі кватэры.

Першая праверка па факце незаконнага пранікнення ў прыватную кватэру Ігара Барысава ўчастковым была праведзена няякасна, і пасля скаргі ў пракуратуру была праведзена дадатковая праверка, аднак і яна не дала ніякіх вынікаў.

«Праверка, якую правёў участковы Данькоў, праведзена павярхоўна і няякасна. Дадзена шаблонная фармальная адпіска. Ён ні першы, ні другі раз не апытаў і не правёў аналіз інцыдэнту з ужываннем фізічнай сілы, а таксама праігнараваў амаль усе пытанні, якія маюць значэнне для кваліфікацыі злачынства, на якія звярнуў увагу пракурор. Пракуратура пазначыла ўчастковаму, на якія пытанні варта звярнуць увагу пры правядзенні дадатковай праверкі, аднак на іх адказаў няма, бо гэтыя дакументы ў «Камунальніка» адсутнічаюць, як і іншыя законныя падставы, каб патрапіць у нашу кватэру», — пракаментавала сітуацыю юрыст Алена Барысава.

### ВІЦЕБСК. На заснавальнікаў партыі БХД ціснуць



**Аргкамітэт па стварэнні партыі БХД ужо ў шосты раз паспрабаваў зарэгістраваць партыю — падаў у Міністэрства юстыцыі Беларусі спіс больш як 1000 заснавальнікаў і іншыя дакументы.**

Цяпер на тых, хто падпісаўся ў якасці заснавальніка, пачаўся ціск. Пра гэта распавяла Таццяна Севярынец, віцебская каардынатарка аргкамітэту па стварэнні партыі БХД.

«Ціснуць на самых неабароненых, прычым гэта жорсткі маральны ціск. Пенсіянерку Валянціну Скамарохаву, якая працуе ў «Доме дзіцяці», выклікалі да галоўнага ўрача, там у кабінеце сядзелі яшчэ два чалавекі. Сказалі, што яны з Мінюсту. Але для жанчыны сталага веку гэта ж сапраўдны стрэс — выклікалі ж да кіраўніка! Чаму нельга было патэлефанаваць ёй асабіста, спытацца, ці падпісвала яна дакументы? Навошта трэба было распачынаць усю гэтую працэдуру, падчас якой спачатку дапытваліся, ці ставіла спадарыня свой подпіс, а потым узялі нейкую паперку, што яна пакуль не з'яўляецца чальцом партыі», — кажа Таццяна Севярынец.

Па яе словах, былі і іншыя выпадкі.

**Паводле spring96.org**

# Праслед Бяляцкага працягваецца

**Кіраўнік Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі атрымаў пастанову аддзела прымусовага выканання Партызанскага раёна горада Мінска аб тым, што на долю кватэры, у якой ён пражывае з сям'ёй, накладзены арышт.**

У пастанове, якая была вынесеная загадчыкам сектара № 2 М.М. Гастэлам 4 студзеня 2016 года, у прыватнасці ўказана, што ў вытворчасці аддзела прымусовага выканання Партызанскага раёна г. Мінска на выкананні знаходзіцца выканаўчы ліст № 1-978/2011 ад 24.11.2011 суда Першамайскага раёна г. Мінска аб накіраванні ў кошт канфіскацыі маёмасці Алеся Бяляцкага 18/100 долі ў праве ўласнасці на кватэру, у якой ён стала пражывае са сваёй сям'ёй. У мэтах забеспячэння ажыццяўлення выканаўчых дзеянняў на дадзеную маёмасць накладзены арышт.

Адметна, што гэты выканаўчы ліст быў выдадзены ў аддзел прымусовага выканання толькі 14 снежня 2015 года.

Варта нагадаць, што, згодна з прысудам суда Першамайскага раёна г. Мінска, 24 лістапада 2011 года старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі быў асуджаны да 4 гадоў і 6 месяцаў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці, якая належала яму на праве ўласнасці — у тым ліку кватэры, у якой знаходзіўся офіс Праваабарончага цэнтру «Вясна». Яшчэ да суда над праваабаронцам на офіс арганізацыі быў накладзены арышт. 26 лістапада 2012 года ён быў апячатаны судовымі выканаўцамі суда Першамайскага раёна г. Мінска (акт вопісу маёмасці ад 26.11.2012 г.), уся маёмасць арганізацыі, якая там знаходзілася, была канфіскаваная і вывезеная. У сувязі з немагчымасцю карыстання офісам, сябры ПЦ «Вясна» былі вымушаны пакінуць яго.

У выніку абскарджанняў рашэнняў аб канфіскаванай маёмасці, паводле рашэння суда Партызанскага раёна г. Мінска ад 4 ліпеня 2012 года, арышт з долі ў кватэры, у якой пражываў Алесь са сваёй сям'ёй, быў зняты.

Такім чынам, падобна, што праз чатыры гады пасля вынясення прысуду Алесю Бяляцкаму ўлады вырашылі канфіскаваць не толькі кватэру, у якой месціўся офіс Праваабарончага цэнтру «Вясна», але і фактычна пазбавіць праваабаронцу месца жыхарства.

Алесь Бяляцкі не выключае, што прычынай раптоўнай актыўнасці Мінюста мог стаць нядаўні зварот Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека да беларускіх уладаў з нагоды невыканання рашэння Камітэта па правах чалавека ААН па яго справе.

«Мне падаецца, гэтая пастанова аб канфіскацыі можа быць звязаная з тым, што на адрас Міністэрства замежных спраў быў накіраваны зварот аб невыкананні патрабаванняў Камітэта па правах чалавека ААН па маёй крымінальнай справе. Адным з такіх патрабаванняў да беларускіх уладаў з'яўляецца ануляванне маёй судзімасці. Магчыма, нашая актыўнасць на міжнародным узроўні магла выклікаць такую рэакцыю з боку ўладаў — патрабаванне аб выкананні судовага рашэння чатырохгадовай даўніны», — кажа Алесь Бяляцкі.

Праваабаронца абскардзіў пастанову аб канфіскацыі ў судзе. «У мяне была магчымасць абскардзіць дадзеную пастанову, і я гэта зрабіў, спасылаючыся на той факт, што ў гэтай кватэры жыву я разам з жонкай», — паведаміў Алесь Бяляцкі.

**spring96.org**

# Прысуд не выконваецца

Марыя ВЕРАС

**Рашэнне суда Слуцкага раёна аб кампенсацыі «Мінскаблдарбудам» жыхарцы Слуцка Зінаідзе Цімошак матэрыяльных стратаў за пашкоджаны аўтамабіль на аварыйнай дарозе Слуцк—Капыль уступіла ў дзеянне 29 кастрычніка 2015 года. Аднак да гэтага часу грошай жанчына не атрымала.**

18 студзеня 2016 года адбылося яшчэ адно пасяджэнне суда Слуцкага раёна, дзе прынята вызначэнне аб індэксацыі сумы кампенсацыі. Прадстаўнікі «Мінскаблдарбуд» на суд не з'явіліся.

— Мы на практыцы бачым ігнараванне законаў і элементарную халатнасць у звычайных справах, — гаворыць Зінаіда Цімошак. — «Мінскаблдарбуду» выгадна не выплачваць грошай як мага даўжэй. У сувязі з імклівым падзеннем беларускага рубля сума матэрыяльнай кампенсацыі ўжо абясцэнілася на 25%. Што ж да індэксацыі сумы судом — яна павялічылася ўсяго на 200 тысяч.

Па словах Цімошак, яе здзіўляе, што ў аддзеле прымусовага выканання Цэнтральнага раёна горада Мінска справа была зарэгістравана толькі 29 снежня 2015 года пасля яе асабістага званка.

«Суддзя Слуцкага раёна Святлана Пастухова яшчэ ў сярэдзіне лістапада даслала да мяне копію ліста аб накіраванні справы да мінскіх судовых выканаўцаў, яна ж сцвярджае, што ў яе ёсць і распіска на паштовым паведамленні, якая датуецца сярэдзінай лістапада, — тлумачыць Цімошак. — Атрымліваецца, што справа гуляла недзе больш за паўтара месяца. Я не разумею, што тут: халатнасць, непрафесіяналізм, недахопы ў заканадаўстве альбо наўмыснае зацягванне выканання прысуду? Выходзіць, калі б я не патэлефанавала 29 снежня ў канцылярыю аддзела прымусовага выканання, справа б не была заведзена да гэтага часу? Калі я на днях не атрымаю ад судовага выканаўцы ніякага паведамлення аб прынятых мерах, буду пісаць скаргу ў Міністэрства юстыцыі і яшчэ адзін зварот у суд аб індэксацыі сумы за студзень 2016 года.

Высокакваліфікаваны юрыст, у мінулым работнік пракуратуры, Уладзімір Букштынаў, да якога Зінаіда Цімошак звярнулася па каментар, лічыць, што ў судовых выканаўцаў ёсць усе неабходныя паўнамоцтвы для хуткага выканання судовых рашэнняў.

«Атрымаўшы рашэнне суда, судовыя выканаўцы могуць неадкладна выклікаць да сябе галоўнага бухгалтара альбо кіраўніка прадпрыемства і запатрабаваць неадкладнага выканання законнага патрабавання. За невыкананне рашэння суда прадугледжана і крымінальнае пакаранне. Таксама могуць быць арыштаваны грашовыя сродкі арганізацыі і многае другое. Ды і сума, якая павінна быць выплачана, больш за 5 мільёнаў, — не такія ўжо вялікія сродкі для такога буйнога прадпрыемства, як «Мінскаблдарбуд». Закон — на такое і закон, каб яго выконваць неадкладна», — кажа юрыст.

# Прадпрымальнік абвясціў галадоўку

**Супраць бязглуздых законаў, абыякавасці чыноўнікаў Першамайскага раёна Віцебска пратэстуе галадоўкай прадпрымальнік Анар Іваноў.**

Анар меў невялічкую, у 18,6 квадратных метра крамку бытавых сродкаў «Ліза», названую так у гонар дачушкі. Плацію арэнду, камунальныя. А крамку зрабіў — збудаваў у пераходзе дому па праспекце Будаўнікоў уласнымі рукамі. Бізнесам займаецца з 1996 года, але арэнда стала не па сродках, ад пачатку вырасла ў 3 разы.

Доўгі час Іваноў не мог зразумець, каму ж ён плаціць арэнду. Быццам бы ЖРЭТ, але дакументы прыходзілі незразумелыя — нейкія грузаперавозкі. Пачаў разбірацца, каму і за што плаціць. Пачаў пісаць у інстанцыі. Пасля вырашыў выкупіць памяшканне, каб раз сплаціць і быць гаспадаром. Стаў краму перараблядь у цырульню, зрабіў рамонт, усталяваў прылады, хадзіў па кабінетах, атрымаў згоду, але галоўныя пытанні так і засталіся: каму і за што плаціць і чаму немагчыма выкупіць.

Ад адчаю прадпрымальнік абвясціў галадоўку. Лёг на імправізаваны ложак у незавершанай цырульні. Ведаюць пра гэта ў гарвыканкаме, у пракуратуры. І маўчанне. Толькі са ЖРЭТ зазірнулі, сказалі: «Хопіць дурыць». Ды заходзяць рэдкія мінакі, што прачыталі аб'яву на дзвярах: «ГОЛОДОВКА». Спачуваюць, даюць парады.

**Паводле bchd.info**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Закрыць усё!

Сяргей САЛАЎЁЎ



Фота www.pikabu.ru

**Яшчэ нядаўна ўсе сумняваліся ў «карэізацыі» Беларусі. Маўляў, немагчыма краіну ў цэнтры Еўропы закрыць, як закрытая Паўночная Карэя. Можа, і немагчыма, але, падаецца, улады ўсё робяць для гэтага.**

Найперш, самае балючае пытанне — пытанне дзейнасці прадпрымальнікаў. Як вядома, дробныя бізнесоўцы чакаюць вынікаў перамоваў з уладамі да 25 студзеня. У гэты дзень яны павінны сабрацца ў Мінску на чарговы Антыкрызісны форум і пагладзець, што прапануюць улады, каб ІП аднавілі працу.

Але справа ў тым, што форум прадпрымальнікаў у гэты дзень можа і не адбыцца. Як распавёў старшыня прадпрымальніцкага РГА «Перспектыва» Анатоль Шумчанка, 16 студзеня яны заключылі дамову з галоўным гаспадарчым упраўленнем Кіраўніцтва справамі прэзідэнта аб арэндзе залы Міністэрства эканомікі. У той жа дзень арэнда была аплачана. Аднак 19 студзеня Шумчанку паведамілі, што ў арэндзе адмоўлена. Гэта патлумачылі тым, што 25 студзеня ў памяшканні плануецца правядзенне калегій міністэрстваў «з удзелам першых асоб».

Зала, у якой планавалася правесці чарговы прадпрымальніцкі форум, разлічана на 438 месцаў. Традыцыйна свае мерапрыемствы ў апошнія гады «Перспектыва» ладзіла ў актавай зале гасцініцы «Беларусь», але на папярэднюю сустрэчу 11 студзеня, паводле ацэнак арганізатараў, сабралася больш за тысячу прадстаўнікоў малога бізнесу. Па словах Шумчанкі, гэта выклікала незадаволенасць адміністрацыі гасцініцы, і цяпер там згодныя на мерапрыемствы «Перспектывы», калі колькасць удзельнікаў не перавысіць 250 чалавек.

Аб'яднанне шукае ў Мінску новую залу для правядзення форуму. Аднак не факт, што такія памяшканні знойдуцца. Гэта значыць, альбо прадпрымальніцкі форум пройдзе на вуліцы — чаго так палымяна не хацеў Шумчанка. Альбо мерапрыемства не будзе ўвогуле, што аўтаматычна пераводзіць непрацуючых зараз ІП у стадыю «бестэрміновага страйку». Бо працаваць у новых умовах ім немагчыма.

Такім чынам, улада потым можа з чыстым сумленнем казаць, што прадпрымальнікі самі завалілі тыя дамоўленасці, пра якія тыя і не пачулі, бо залы для іх збору не знайшлося. І будзе ў нас толькі «дзяржаўны гандаль», як у Паўночнай Карэі, з усімі ягонымі наступствамі: дэфіцытам і адсутнасцю выбару.

Апроч таго, хутка дзяржава вызначыць, што нам варта глядзець па тэлебачанні, а што шкодна. У Міністэрстве інфармацыі завяршаецца праца над праектам указа аб увядзенні ў Беларусі адзінага дзяржаўнага дыстрыбутара замежных тэлеканалаў.

Зараз кожны кабельны аператар самастойна фармуе сваю сетку вяшчання і спіс рэтранслюемых тэлеканалаў. З прыходам адзінага дзяржаўнага рэгулятара гэта стане немагчымым. Сітуацыя ўскладняецца і палітыкай саміх замежных тэлеканалаў.

Найперш, буйныя замежныя каналы прынцыпова супраць таго, каб у адной сетцы іх прадукцыя спалучалася з канкурэнтамі. Напрыклад, там, дзе транслюецца Sony Pictures, не павінна быць Fox Life. Там, дзе ёсць «Охота и рыбалка», не павінна быць Animal Planet ад Discovery. А калі ў Беларусі будзе толькі адзін рэтранслятар замежных тэлеканалаў, зразумела, некаторыя канкуруючыя кампаніі проста адмовяцца ад нашага рынка. Найперш, адмовяцца сусветныя лідары, бо наш рынак у іх маштабах — кропля ў моры, за які ваяваць не варта. Напрыклад, у таго ж Discovery агульная колькасць абанентаў у свеце — 3 мільярды.

**За закрыццём сусветных адукацыйных тэлеканалаў навацыі, калі верыць міністру, чакаюць і айчынную адукацыю**

А некаторыя буйныя замежныя тэлекампаніі таксама прынцыпова не вядуць вяшчанне праз дзяржаўныя кампаніі-рэтранслятары. Звычайна ў статутных дакументах буйных міжнародных медыяхолдынгаў прапісаныя абмежаванні па партнёрстве з дзяржаўнымі і афіляванымі з дзяржавай кампаніямі. Гэтага патрабуе іх антыманапольнае і антыкарупцыйнае заканадаўства. А калі ў Беларусі будзе адзін дыстрыбутар, які сам рэгіструе тэлеканалы, сам выдае дазвол на іх распаўсюд і сам жа «за парадкам назірае», — што гэта, як не манаполія?

То бок, большасць сусветных адукацыйных і асветніцкіх тэлеканалаў мы больш не пабачым інакш, як па спадарожнікавай талерцы. Яе пакуль што не да канца зарэгулявалі, — толькі месцы яе ўстаноўкі.

За закрыццём сусветных адукацыйных тэлеканалаў навацыі чакаюць і айчынную адукацыю. Прынамсі, наш міністр адукацыі Міхаіл Жураўкоў выказаў пажаданне скараціць базавую школьную праграму як мінімум на 20–30%.

«Сучасная школьная праграма значна больш складаная, чым яна была ў 70–80-я гады мінулага стагоддзя, — піша ён у артыкуле, апублікаваным 19 студзеня ў газеце «Советская Белоруссия». — Гэтае ўскладненне праграмы пачалося ў 1990-х гадах і працягваецца дагэтуль. Трэба пакінуць у школьнай праграме толькі самую важную і неабходную базавую інфармацыю».

На думку Жураўкова, стварэнне базавай праграмы трэба праводзіць паэтапна: «Спачатку рашуча адкінуць відавочна другарадны або немагчымы для вывучэння ў сярэдняй школе матэрыял (для дакладных навук адзін з галоўных арыенціраў і сёння — праграма савецкай школы другой паловы XX стагоддзя), а затым заняцца ўважлівым адборам інфармацыі, абсалютна неабходнай для вывучэння ў школе».

Ну, зразумела, што сучасная школьная праграма больш складаная, чым тая, што была паўстагоддзя таму! Можа, нагадаць спадару Жураўкову, што «арыенцір — праграма савецкай школы другой паловы XX стагоддзя» называла генетыку «прадажнай дзеўкай імперыялізму», а інфарматыку і кібернетыку — ілжэнавукамі? Можа, абрэзаць усім інтэрнэт, і замест кампутараў у школы паставіць калькулятары як вышэйшае дасягненне айчыннай электронікі?

Некаторыя (і я ў іх ліку) думаюць, што ў нас школьная праграма і так спрошчаная ў параўнанні з той, па якой мы вучыліся напачатку 1990-х гадоў. Куды ўжо прасцей, калі нам у першым класе ставілі адзнакі, а зараз першы клас — усё роўна што «нулёўка» ў дзіцячым садку?

Карацей, па выразе кіраўніка дзяржавы, будзем мы хадзіць «п'яныя і дурныя». П'яныя, бо гарэлка ў крамах ёсць, а на рынках нікога няма. І дурныя, бо няма адукацыйных тэлеканалаў, а школа навучыць, што генетыка — «прадажная дзеўка імперыялізму».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Мікалай Стакевіч



**Былы кандыдат у прэзідэнты краіны і палітвязень ствараe пагрозу для культурніцкіх праектаў Беларусі.**

Паказ спектакля «Што рабіць з тыграм» прыватнага «Тэатра Ч», запланаваны на 20 студзеня, забаранілі.

Як паведамляецца на старонцы тэатра ў Фэйсбуку, спектакль, паказ якога павінен быў прайсці ў «Прасторы ЦЭХ» 20 студзеня, адменены, паколькі тэатру ў апошні момант адмовілі ў гастрольным пасведчанні.

Драматург Андрэй Курэйчык напісаў у той жа сацсетцы, што спектакль забаранілі па званку з Мінкульта. Адна з магчымых прычынаў забароны — тое, што «на прэм'еру прыходзілі Уладзімір Някляеў і Мікалай Статкевіч, проста як гледачы, павіншавалі пасля спектакля артыстаў разам з іншымі VIP-амі — і вось спектакль польскага рэжысёра Дарыюша Язерскага па п'есах Славаміра Мрожэка, створаны пры падтрымцы Польскага Інстытута, не дапушчаны да паказу».

«Мабыць, гледача ў тэатрах зараз давядзецца фільтраваць па палітычных поглядах. І вешаць шыльды на касу: апазіцыйна настроеныя гледачы і палітыкі на спектаклі не дапускаюцца!» — піша Курэйчык.

Нагадаем, прэм'ера спектакля адбылася ў верасні 2015 года. Яе наведаў незадоўга да гэтага вызвалены Мікола Статкевіч, якога публіка вітала апладысментамі.

Статкевічу і Някляеву неяк трэба дамовіцца і сходзіць разам у Адміністрацыю прэзідэнта. Цікава, што будзе?

## Рыгор Памяранцаў



**Кіраўнік Нацыянальнага агенцтва па турызме адмовіўся ад сваёй пасады.**

Рыгор Памяранцаў шчыра прызнаўся журналістам, што ён бізнесовец. Паводле яго слоў, ён, пры запрашэнні на пасаду, адразу папярэдзіў, што ў яго ёсць фірма і рахункі за мяжой. Яму сказалі, што гэта не будзе праблемай. Але потым высветлілася, што гэта супярэчыць антыкарупцыйнаму заканадаўству. Яму прапанавалі закрыць сваю кампанію або перарэгістраваць яе на жонку, а таксама закрыць замежныя рахункі, каб стаць паўнавартасным дырэктарам агенцтва. «Але я не магу дазволіць сабе так працаваць, закрыць фірму, ісці на выдаткі, трáціць уласныя грошы, каб стаць дырэктарам дзяржструктуры з мінімальным акладам», — зазначыў Памяранцаў.

Другая прычына яго сыходу звязаная з «нявызначанасцю ролі Нацагенцтва па турызме і адсутнасцю магчымасці ўплываць на развіццё турыстычнай галіны». Магчымасць уплываць на развіццё турыстычнай галіны, паводле слоў Памяранцава, у яго была ў рамках зносін са СМІ і акцэнтавання ўвагі прэсы на асноўных праблемных пытаннях турызму. У той жа час, да прыкладу, бюджэт Нацагенцтва на 2016 год фармаваўся без яго ўдзелу, паколькі лічбы і задачы былі «спушчаны зверху».

## Аляксандр Глеб



**Знакаміты беларускі футбаліст пасталеў і ўжо спакойна ставіцца да свайго ўдзелу ў футбольных падзеях.**

Беларускі паўабаронца «Генчлербірлігі», прынамсі, можа і не гуляць у зборнай краіны.

«У зборнай? Калі перастануць выклікаць — не пакрыўджуся, праўда. Я ўжо дарослы чалавек, мне не 20–25 гадоў. Трэнеру заўсёды лепш відаць, ён — дырыжор каманды. Але калі працягнуць запрашаць — буду рыць зямлю», — адзначыў Глеб у інтэрв'ю «Прессболу».

Ён таксама спакойна ставіцца і да завяршэння сваёй футбольнай кар'еры, хаця пакуль што завяршаць яе, бачна па ўсім, не збіраецца. «Прыйдзе момант, калі перастану атрымліваць ад футбола задавальненне. Тады і завяршу кар'еру — не хочацца выходзіць на поле без жадання. Калі, скажам, паступіць прапанова ад клуба, які ставіць перад сабой цікавыя задачы, то працягну гуляць. А калі такіх варыянтаў не будзе, спакойна скончу», — паведаміў Глеб.

Рэакцыі Глеба можна пазайздросціць. І павіншаваць газету «Прессбол», якая 16 студзеня адзначыла сваё 25-годдзе.

Сяргей ПУЛЬША

**Зімбабвэ дэ-факта ўвяла мараторый на смяротнае пакаранне, таму што там няма людзей, гатовых выконваць прысуды. У Беларусі ў гэтым годзе ўжо з'явіўся першы асуджаны да смерці.**




# Мы ўсе саўдзельнікі забойства

### Жорсткае грамадства

Мы ўсё думаем, чаму нашае грамадства такое жорсткае? Чаму ў нас заўсёды не хапае спачування і міласэрнасці? Чаму нам складана як атрымаць, так і самім дапамагчы тым, хто патрапіў у бяду? Як ні дзіўна, на гэта ў нейкай ступені ўплывае і існаванне ў краіне такога інстытута, як смяротнае пакаранне.

Наяўнасць у краіне такога кшталту кары адназначна робіць грамадства больш жорсткім, кажа каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» Андрэй Палуда. Гэта даказана шматлікімі сацыялагічнымі даследаваннямі. «Нават адзін смяротны прысуд захоўвае сістэму, — заўважае Палуда. — І гэтая сістэма ўплывае на ўсё грамадства».

Смяротная кара, насамрэч, не ёсць абстрактным паняццем. З людзьмі, датычнымі да забойства чалавека, хай і злачынцы, мы можам сутыкнуцца кожны дзень. На аднаго забітага прыпадаюць сотні, якія спрычыніліся да гэтага забойства. «Гэта і суддзі, якія выносілі смяротны прысуд, і тыя суддзі, хто разглядаў касацыйныя, наглядныя скаргі асуджанага, гэта шмат пракурораў, якія падтрымлівалі абвінавачванне, тыя, хто ажыццяўляе нагляд за апошнім месяцам знявολення, за выкананнем прысуду. Гэта супрацоўнікі турмы, дзе знаходзяцца «смяротнікі», чальцы расстрэльнай каманды, медыкі, якія канстатуюць смерць, пахавальная каманда і гэтак далей», — кажа Палуда.

Гэтыя людзі ходзяць побач намі, ездзяць у адным з намі грамадскім транспарце і з'яўляюцца тым самым грамадствам, у якім мы жывем. І ўвогуле, любы чалавек у краіне — саўдзельнік гэтага забойства, бо прысуд абвяшчаецца «імем Рэспублікі Беларусь».

Пакуль у краіне будзе існаваць смяротнае пакаранне, мы будзем горшыя за Зімбабвэ, упэўнены Палуда. Смяротную кару ў нас трэба адмяняць не таму, што гэтага патрабуе Еўропа, Захад, «цывілізаваны свет», у вачах якога мы выглядаем дзікунамі. Гэта патрэбна найперш нашаму грамадству, упэўнены праваабаронца.

### Воля ці бязволле?

Для таго, каб адмяніць смяротнае пакаранне, трэба толькі воля ўлады. Аднак пакуль што ўлада ўсімі магчымымі сродкамі супраціўляецца адмене. Звычай, кажа Палуда, у чыноўнікаў два аргументы. Гэта тое, што наяўнасць у краіне смяротнай кары з'яўляецца «стрымліваючым фактарам» злачыннасці, і рэферэндум 1996 года, на якім народ нібыта падтрымаў захаванне гэтай практыкі.

Наконт «стрымліваючага фактару» пісалі багата, прыводзячы шмат даследаванняў пра тое, што наяўнасць у краіне смяротнага пакарання ніяк не ўплывае на ўзровень злачыннасці. Наадварот, у некаторых краінах злачыннасць ішла на спад. Чаму так адбывалася? Ды проста грамадства станавілася менш жорсткім.

З іншага боку, кажа Палуда, паводзіны дзяржавы ў гэтым плане дзіўныя. Калі смяротнае пакаранне — гэта «стрымліваючы фактар», то чаму дзяржава намагаецца схаваць такія прысуды, зрабіць іх таямніцай? «Напрыклад, справа Лыкава, які забіў пяць чалавек, быў прысуджаны да смяротнай кары, амаль месяц ужо сядзеў у камеры смяротнікаў, калі толькі выпадкова пра яго даведаліся актывісты кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання». Чаму гэта замоўчваецца? Значыць, няма ніякай «прафілактыкі» і «стрымліваючага фактару»?» — робіць выснову Палуда.

Канешне, не хацелася б, каб у нас, як у Кітаі, выкананне смяротных прысудаў транслявалі ў прамым эфіры па тэлебачанні. Але замоўчванне іх таксама шмат аб чым сведчыць.

Што да рэферэндуму 1996-га, то ў гэтым годзе яму будзе 20 гадоў. За гэты час шмат з тых, хто на ім галасаваў, ужо адышлі ў лепшы свет, а хлопчыкі, якія менавіта ў той час былі вельмі занятыя тым, што нараджаліся, зараз ужо прайшлі войска. Змянілася цэлае пакаленне, а нам яшчэ ўцюхваюць казку пра «народнае волевыяўленне».

На думку Андрэя Палуды, гэта адбываецца таму, што чыноўнікі мысляць комплексна. «Той рэферэндум шмат у чым вызначыў палітычны лад і наступны шлях краіны. На думку чыноўніцтва, адмовіцца зараз ад смяротнага пакарання — значыць паставіць пад сумнеў вынікі і па іншых пытаннях таго плебісцыту», — мяркуе праваабаронца. Хаця насамрэч ніяк гэтыя пытанні не звязаныя, і новага рэферэндуму па адмове ад смяротнага пакарання праводзіць нават не трэба. Бо ў Канстытуцыі замацаваная «часовасць» смяротнай кары, ёсць тлумачэнні Канстытуцыйнага суда, згодна з якімі кіраўніку дзяржавы проста трэба паставіць подпіс пад загадам аб мараторыі на выкананне такіх прысудаў.




**Увядзенне мараторыя на смяротную кару — гэта самы просты шлях да далейшай нармалізацыі адносінаў з Захадам**

Увогуле, праваабаронцы ў цэлым і Палуда ў прыватнасці супраць, каб пытанне адмены смяротнага пакарання выносілася на рэферэндум. «Гэта пытанне эмацыйнае, — тлумачыць ён. — Калі паказаць па тэлевізіі нашы фільмы супраць смяротнай кары, упэўнены, большасць выкажацца за яе адмену. Калі па тэлевізіі трансляваць забойствы — большасць будзе за яе захаванне. Менавіта ягоная эмацыйнасць робіць бессэнсоўным плебісцыт па адмене смяротнай кары».

### Ці так ужо грамадства за смерць?

Ад рэферэндуму 1996 года прайшло шмат часу. Змянілася не толькі пакаленне, але і тэхналогіі, якія фармуюць грамадскую думку: зараз крыніц інфармацыі значна больш. Таму ўзнікаюць парадоксы: смяротны прысуд «мінскім тэрарыстам» Уладзіславу Кавалёву і Дзмітрыю Канавалаву выклікаў хвалю адмаўлення смяротнай кары сярод беларусаў — тады, згодна з сацапытаннямі, упершыню колькасць прыхільнікаў адмены смяротнага пакарання перавысіла колькасць тых, хто за яго захаванне.

Бо людзі мелі не толькі «афіцыйную» інфармацыю пра судовы працэс. Ён шырока абмяркоўваўся ў СМІ і інтэрнэце. І людзі бачылі, як «нацягнута» было праведзенае следства. А таму палічылі, што суд быў, мякка кажучы, неаб'ектыўны. І пакаранне смерцю ў гэтым выпадку, прынамсі, да Уладзіслава Кавалёва, — непапраўная памылка.

З таго часу колькасць прыхільнікаў і праціўнікаў смяротнага пакарання вагаецца ў суадносінах «50 на 50». Больш прасунутая частка грамадства выступае за яго адмену. «Вядомы блогер Дзяніс Бліщ у твітары наладзіў апытанку: «Ваша стаўленне да смяротнага пакарання ў Беларусі. Узважце ўсе за і супраць, пазбаўцеся без эмоцый», — распавядае Палуда. — Цягам 24 гадзін на пытанне адказалі 444 карыстальнікі гэтай сацсеткі. За прымяненне смяротнага пакарання выказалася 29% рэспандэнтаў, супраць — 55% і не вызначыліся — 16%. Гэта, канешне, пэўны зрэз меркаванняў карыстальнікаў адной сацсеткі, гэта не грунтоўнае сацыялагічнае даследаванне. Але сапраўды, у апошнія гады мы назіраем тэндэнцыю павелічэння ў грамадстве праціўнікаў смяротнага пакарання».

Нават ва ўладных колах, кажа Палуда, ужо не існуе адназначнага меркавання па гэтым пытанні. Напрыклад, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Мікалай Самасейка адкрыта кажа, што ён супраць смяротнага пакарання, і ягоная адмена — пытанне часу. Праўда, не кажа, якога часу, зазначае каардынатар кампаніі супраць смяротнага пакарання.

Андрэй Палуда ўпэўнены ў адным. «Калі зараз увесці мараторый на смяротнае пакаранне, я ўпэўнены, што ніхто не будзе абараняць гэтую кару. Не будзе шматтысячных мітынгаў на Кастрычніцкай плошчы з патрабаваннем узнавіць яго», — кажа праваабаронца.

### Беларусь — краіна для смерці?

Андрэй Палуда сцвярджае, што зараз надышоў час адмяніць смяротную кару альбо ўвесці на яе мараторый. Таму што краіна шмат што губляе ў іміджавым плане.

«Мы пазіцыянуем сябе на міжнароднай арэне як міратворцы, як выспа стабільнасці ў цэнтры Еўропы, але адна наяўнасць у краіне смяротнай кары зводзіць нашы высілкі на нішто. Глядзіце: Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, дзе існуе смяротнае пакаранне. Адзіная краіна на прасторы былога СССР, дзе гэтыя пакаранні выконваюцца. У АБСЕ толькі дзве краіны са смяротным пакараннем: ЗША і Беларусь», — заўважае Палуда.

«Зараз па тэлебачанні актыўна круцяць прамаролікі, слоганам якога з'яўляецца: «Беларусь — краіна для жыцця». Як можа быць краінай для жыцця тая, дзе існуюць смяротныя прысуды? Мы пазіцыянуем сябе як дзяржаву сацыяльнай стабільнасці і парадку, але якія могуць быць стабільнасць і парадак у краіне, дзе захоўваецца смяротная кара?» — задае пытанне праваабаронца.

Увядзенне мараторыя на смяротную кару — гэта самы просты шлях да далейшай нармалізацыі адносінаў з Захадам. У сённяшніх варунках яно пераходзіць на ўзровень не проста дыскусій, а абмеркавання як аднаго з крокаў уладаў Беларусі насустрач Еўропе. «Праўда, пакуль палітыкі абмяркоўваюць, што яны атрымаюць узамен. Палітыкі заўсёды так робяць», — зазначае Палуда.

Для ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне дастаткова аднаго подпісу кіраўніка дзяржавы пад адным дакументам. А атрымаць можна багата. Аж да таго, што Лукашэнка ўжо не будзе «апошнім дыктатарам у Еўропе». Ну які ж дыктатар адмяняе смяротную кару?

І ў гісторыю Лукашэнка можа ўвайсці не як «дыктатар», а як чалавек, які пазбавіў смяротнага пакарання ўсю Еўразію. Пытанне толькі ў тым, ці хопіць на гэта ў яго асабістай і палітычнай волі.

# Асцярожна, Еўропа зачыняецца!



Зміцер ГАЛКО

**Закрыццё дзвярэй перад бежанцамі, у якім многія каментатары ў байнэце бачаць вырашэнне еўрапейскага міграцыйнага крызісу, можа закрыць Еўропу і для нас саміх.**

### Еўропа імя Ярмошынай

Доўгі час мне здавалася, што Беларусь не гатовая да ўз'яднання з Еўропай не толькі праз негатоўнасць да гэтага нашых дзяржаўных інстытутаў, ганебна анахранічных, але і праз «цывілізацыйную неадпаведнасць» саміх беларусаў. Бо Еўропа — гэта перадусім сістэма каштоўнасцяў, якія беларусы ў масе сваёй не падзяляюць ці не разумеюць.

Уяўленне пра «еўрапейскія каштоўнасці» ў Беларусі заўсёды было вельмі прыземленае. Напрыклад, Лідзія Ярмошына вызначала іх такім чынам: «Здаровая нацыя, здаровая сям'я, грамадства без наркотыкаў, добрыя дарогі, крамы і гэтак далей». Даследаванні НІСЭПД грамадскай думкі паказвалі, што старшыня ЦВК зусім не далёкая ад народу. З многіх варыянтаў адказу на пытанне «З чым у вас асацыюецца Еўропа?» з вялікім адрывам на першае месца выходзіў дабрабыт.

Не тое каб еўрапейцы не цанілі сям'ю, добрае здароўе, адладжаную інфраструктуру і маленькія радасці спажывання. Аднак не праз іх вызначалася ідэя Еўропы. Яна вызначалася праз такія каштоўнасці, як, напрыклад, безумоўная павага да правоў чалавека, талерантнасць, адкрытасць, «адзінства ў разнастайнасці» («in varietate concordia» — афіцыйны дэвіз ЕС).

На мой погляд, пералічаныя каштоўнасці — найбольш незразумелыя для беларусаў. Не, чыста тэарэтычна мы можам быць за правы чалавека. Але калі справа даходзіць да практыкі...

Адным з правоў чалавека з'яўляецца права на жыццё. Безумоўная павага да правоў чалавека ў гэтым выпадку азначае, што ніхто не мае права пазбаўляць жыцця іншага, адсюль адмена смяротнага пакарання.

Няўжо Андэрса Брэйвіка, забойцу 77 чалавек, таксама нельга пакараць смерцю? Нельга. Цьху ты! Ну, ён хаця б усё жыццё будзе заслужана пакутаваць у нечалавечых умовах? Не, не будзе, бо кожны чалавек мае права не быць падвергнутым пакаранню, якое зневажае яго годнасць. Ды яны з глузду з'ехалі ў гэтай сваёй Еўропе!

Талерантнасць азначае павагу да чалавечай індывідуальнасці, цярпімасць да іншых спосабаў жыцця, паводзінаў і самавыяўлення, пакуль яны нікому не пагражаюць. Але большасць беларусаў кажа: «Мы ўсё разумеем, але «барадатыя жанчыны» — гэта ўжо занадта! Гэтую вашу Канчыту Вурст трэба прымусова лячыць або ў цырку паказваць».

Адкрытае грамадства не адасабляе сябе ад чалавецтва, яно адкрытае для ўсяго новага, гэта грамадства, заснаванае на палітычнай свабодзе, гуманнасці... «Годзе, кіньце ўжо! — кажуць беларусы. — Ведаем, да якой разнастайнасці тая гуманная адкрытасць прывяла. Панаехала рознакаляровага зброду з усяго свету, у вачах ад іх мітусіцца, і ўсе халяўшчыкі, гультаі ды злачынцы. Гнаць іх трэба ў карак, інакш нічога ад той Еўропы не застанецца. І дзверы за імі зачыніць, каб не вярнуліся!»

### Беларусізацыя еўрапейцаў

Такім ці падобным чынам выказваліся не бабкі пад пад'ездам, а нашы «chattering classes» («гаваркія класы», прадстаўнікі адукаваных пластоў грамадства, якія любяць пагутарыць пра палітычныя, сацыяльныя ды іншыя надзённыя пытанні) на сваіх старонках у сацыяльных сетках і ў каментарах на сайтах. Раней гэта гучала нейк дзікавата і маргінальна, калі мерацы еўрапейскімі меркамі. Здавалася, што паміж нашым адукаваным грамадствам і еўрапейскім ляжыць каштоўнасная прорва...

Цяпер жа Еўропа стала значна бліжэй. На жаль, толькі ў тым сэнсе, што раздражнёная нецярпімасць, выкліканая страхам перад імклівымі пераменамі ў навакольным жыцці, на вачах робіцца новай нормай.

«Брэйвік меў рацыю... Брэйвіка на іх няма!.. Прыйшоў час выпускаць Брэйвіка!.. Брэйвіка яшчэ пры жыцці зробяць нацыянальным героем і помнік яму паставяць... Цікава, як хутка Брэйвік стане камісарам ЕС па справах міграцыі?» — Гэтыя каментары з'яўляліся на партале TUT.BY пад навінамі пра кёльнскія падзеі. Мадэратары, відавочна, палічылі іх дапушчальнымі.

Тут яшчэ праходзіць мяжа, якая аддзяляе нас ад Еўропы. Але яна даволі тонкая, бо погляды, дзеля прапаганды якіх Андэрс Брэйвік здзейсніў масавае забойства, імкліва набіраюць папулярнасць сярод еўрапейцаў. І цяпер ужо выказваць іх не сорамна.

Андэрс Брэйвік называў «вар'яцтвам» палітыку, якая дазволіла «навадніць» еўрапейскія краіны блізкаўсходнімі і афрыканскімі мігрантамі. Ён бачыў пагрозу ў тым, што еўрапейцы ў хуткім часе могуць стаць меншасцю ў сваіх краінах, а хрысціянства будзе выцеснена ісламам, і лічыў гэты працэс «нацыянальным знішчэннем» і «сапраўдным злом».



**Аб'яднаная Еўропа папросту перастане існаваць. Бо яна аб'яднаная не столькі эканамічнымі інтарэсамі, колькі каштоўнасцямі**

Калі меркаваць па настроях каментатараў у байнэце, гэтыя погляды даўно падзяляе пераважная большасць беларусаў. Значная частка еўрапейцаў пад ціскам міграцыйнага крызісу, і асабліва кёльнскіх падзеяў, таксама стала іх выказваць.

Раптоўнае светапогляднае збліжэнне не азначае, што беларусам стане прасцей уліцца ў еўрапейскую сям'ю народаў. Хутчэй наадварот.

### Еўропа імя Андэрса Брэйвіка

Большасць еўрапейскіх ультраправых партый, чыя папулярнасць расце як на дражджах, сілкуючыся страхамі перад «засіллем» мігрантаў, — гэта антыеўрапейскія партыі. Усе яны так ці інакш лічаць, што еўрапейская інтэграцыя аслабляе нацыянальныя дзяржавы, і выступаюць за тое, каб не запаволіць, спыніць або наогул павярнуць кола гісторыі назад — да Еўропы суверэнных нацыяў. Разбегчыся зноў па сваіх нацыянальных кватэрах, зноў адгарадзіўшыся адзін ад аднаго.

Натуральна, гэтыя партыі не падтрымліваюць далейшага пашырэння ЕС. Як дэманструе выпадак галандскага рэферэндуму супраць асацыяцыі Украіна — ЕС, яны таксама схільныя пакінуць постсавецкія краіны ў сферы ўплыву пуцінскай Расіі.

Натуральна, што ў такой Еўропе беларусам месца не будзе. Аб'яднаная Еўропа папросту перастане існаваць. Бо яна аб'яднаная не толькі і не столькі эканамічнымі інтарэсамі, а каштоўнасцямі, сярод якіх адкрытасць, разнастайнасць, талерантнасць, пошук кампрамісаў і свабода перасоўвання займаюць вельмі важнае месца.

Ёсць тыя, хто мяркуе, што магчымая іншая аб'яднаная Еўропа, пабудаваная на «хрысціянскіх каштоўнасцях». Яе прапагандуюць, напрыклад, славацкі прэм'ер Роберт Фіцо і ягоны венгерскі калега Віктар Орбан. Апошні сцвярджае, што існуе «прыхаваная» Еўропа, якая падзяляе ягоныя кансерватыўныя погляды, але пакуль яшчэ не наважваецца выказаць іх адкрыта.

Стварэнне такой Еўропы — занятак не менш марны, чым спрабаваць запхаць выціснутую пасту назад у цюбік. Але здзейсненая спроба стала б катастрофай. Такая Еўропа непазбежна ператварылася б у Еўропу імя Андэрса Брэйвіка. Бо хрысціянства, якое тут маецца на ўвазе, — гэта не рэлігія міласэрнасці, спачування і любові, а «даспехі» для супрацьстаяння ісламу. Чым яно з'яўляецца і для самога Брэйвіка, «хрысціянскага атэіста».

Спадзяюся, не трэба тлумачыць, чым абярнулася б для Еўропы дэкларатыўнае процістаўленне сябе ісламскаму свету.

Што да Еўропы суверэнных нацый, у якой еўрапейцы ўжо жылі, яна была не толькі Еўропай агароджаў, Еўропай нязручнасцяў, але таксама і Еўропай разладу, Еўропай войнаў.

Камусьці карціць паўтарыць?

### Еўропа як цуд

Герыберт Прантл, кіраўнік аддзелу ўнутранай палітыкі «Süddeutsche Zeitung», у 2014 годзе назваў Еўрапейскі саюз «незаслужаным раем»: «Еўрапейскі саюз — гэта найлепшае, што калі-небудзь адбывалася з Еўропай за яе доўгую гісторыю. Гэта сусветны цуд. Яна мае Еўрапейскую хартыю асноўных правоў, свабоды перамяшчэння, а значыць, і права на прытулак і абарону ад дэпартацыі, высылкі і экстрадыцыі, гэты цуд уключае абарону людзей, якія пераследуюцца на радзіме. Еўрапейскі саюз з'яўляецца завяршэннем амаль тысячагадовай вайны ўсіх супраць усіх. Гэта незаслужаны рай для людзей усяго кантынента», — сказаў палітык.

Як мы памятаем з гісторыі пра рай, дзякуючы хрысціянскім караням нашай культуры, парушэнне прынцыпаў, на якіх ён быў заснаваны, прывяло да таго, што праект закрыўся, усе вымушаныя былі разысціся.

Нават калі прытрымлівацца іх — задача вельмі няпростая, а спакуса парушыць вельмі вялікая, усё ж яно таго варта, каб паспрабаваць. А як гэта зрабіць — сапраўды вартая абмеркавання тэма.

### Коратка наўздагон

Дык чаму з боку праеўрапейскі настроеных беларусаў вельмі неразумна вітаць рост ультраправых настрояў у Еўропе на фоне міграцыйнага крызісу? Насамрэч, гэта прамая пагроза нам.

Вось лагічны ланцужок разваг масавіднага еўрапейскага абывацеля, якога міграцыйны крызіс хіліць направа:

Натоўпы мігрантаў з Паўночнай Афрыкі і Блізкага Усходу пагражаюць майму дабрабыту — пры Кадафі (Бэн Алі, Мубараку і інш.) такога не было! — Арабская вясна — зло, хай бы лепш «моцныя лідары» гэтыя дзікія народы трымалі ў цуглях! — З-за вайны і санкцый з Расіяй у мяне кашалёк прадзіравіўся — усё пачалося з Майдана, які знерваваў Пуціна, бо гэта сфера яго ўплыву, — не трэба было нерваваць Пуціна, хай ён сам у сябе разбіраецца, у нас свайго галаўнога болю хапае — усё адно постсавецкія не гатовыя да дэмакратыі, яны заслужылі тое, што маюць.

Калі людзі з такім лагічным ланцужком у галаве займеюць сур'ёзны ўплыў у ЕС, мы надоўга затрымаемся ў рускім свеце. Няўжо гэта не відавочна?

# Паехала па размеркаванні і знайшла мужа

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Чарговы госць рубрыкі: «Я працаваў па размеркаванні» — Наташа, выпускніца журфака БДУ. Яна размеркавалася ў Чачэрск у рэдакцыю мясцовай газеты. Размеркаванне стала для яе, можна сказаць, лёсавым, бо менавіта на працы Наташа пазнаёмілася са сваім будучым мужам.**

## Да размеркавання рыхтавалася загадзя

Наташа марыла паступаць на журфак, калі яшчэ вучылася ў 9 класе. Тады дзяўчына напісала нататкy пра КВЗ у сваю раённую рэчыцкую газету, дзе і пачала далей публікавацца. Але на журфаку спецыяльнасць Наташа абрала не зусім журналісцкую — «Літаратурная работа». Яна меркавала, што выбар падвоенай спецыяльнасці (філолага і журналіста) забяспечыць ёй большую жыццёвую стабільнасць.

Хутка прайшлі пяць гадоў вучобы ў Мінску. «Ці было для цябе размеркаванне нечаканасцю?» — пытаю я.

«Я ведала, што ў нас будзе размеркаванне, і рыхтавалася да яго. Калі было папярэдняе размеркаванне, я так разгубілася, што тыкнула пальцам у тое, што першае трапілася. А трапіўся горад Чэрыкаў», — расказвае Наташа.

Але калі яна ўжо дома паглядзела па мапе, дзе ж знаходзіцца гэты Чэрыкаў, аказалася, што гэта недзе ў Магілёўскай вобласці, прычым далёка не толькі ад Мінску, але і вельмі далёка ад роднай Рэчыцы. Таму да канчатковага размеркавання Наташа прыйшла больш падрыхтаванай і ўжо свядома абрала горад, які быў блізка да Рэчыцы, — Чачэрск. Туды нарэшце яна і паехала працаваць.



## Маладога спецыяліста зусім не чакалі

Мала хто з аднакурснікаў пазайздросціў Наташы: ехаць зусім адной некуды ў незнаёмы горад, у захалусную раёнку... Але, па словах дзяўчыны, яна ехала туды з энтузіязмам. А на цяжкасці Наташа настроіла сябе загадзя.

«Я думала, што папрацую ў рэдакцыі, набяруся досведу ў розных відах дзейнасці. Як журналіст я адчувала сябе даволі ўпэўнена, але як стылістычны рэдактар я была зусім слабенькая», — распавядае Наташа.

Вось з такімі думкамі дзяўчына і прыехала ў Чэрыкаў, прыйшла ў рэдакцыю. Але яе чакаў сюрпрыз. Пра яе накіраванне ў рэдакцыі ніхто не ведаў. Маладога спецыяліста наўпрост не чакалі.

«Адкуль? З БДУ? Першы раз чуем!» — такія былі першыя словы, якімі сустрэлі Наташу ў рэдакцыі.

Пакуль на патэнцыйным месцы працы высвятлялі, куды знікла заява на маладога спецыяліста, дзяўчына пайшла ў мясцовы райвыканкам, каб вырашаць праблемы з жыллём, бо, натуральна, што пра яго таксама ніхто не паклапаціўся.

Трэба аддаць належнае мясцовым уладам. Ужо да вечара Наташы далі пакой у інтэрнаце, а на наступны дзень яе ўсё ж такі ўжо чакала праца стылістычнага рэдактара ў газеце «Чачэрскі веснік».

Я чула, што ў раёнках свежыя ідэі, якія сыходзяць ад маладых спецыялістаў, наўпрост ігнаруюцца, таму запытала, ці праўда гэта.

Наташа не катэгарычна, але пагаджаецца: «Калі там ужо нешта ўстаялася, то гэта праблематычна не тое што змяніць, але нават парушыць. Як толькі я прыйшла ў рэдакцыю, то заўважыла, напрыклад, што ў газеце няправільна афармляецца ўскосная мова. Калі ў канцы сказа стаіць пытальнік, то сказ закрываецца двукоссем, а яны яшчэ ставілі пасля гэтага кропку. І мне прыйшлося казаць, што гэта няправільна. Мне ў адказ лямантуюць: «Мы ж заўжды так пісалі». Гэта, канечне, дробязі, але з іх і складаецца праца ў рэдакцыі».

Але збольшага Наташы падабаецца і тое, што яна робіць, і тыя, з кім яна працуе. Яе працоўны дзень пачынаецца а 8.30, а заканчваецца а 17.30. Газета выходзіць па пятніцах, таму матэрыялы пачынаюць здавацца на вычытку ў аўторак. З аўторка па чацвер у Наташы — гарачыя дні, бо прыходзіцца сядзець і правіць тэксты, якія напісалі журналісты. А, як кажа дзяўчына, журналісты ў гэтай газеце жудасна непісьменныя.

Па вечарах пасля працы Наташа старалася самаадукоўвацца. Чытала розныя даведнікі, новыя выданні. А яшчэ, пакуль жыла ў інтэрнаце, штосьці-небудзь прыдумляла разам са сваёй суседкай па пакоі, якая, дарэчы, таксама працавала маладым спецыялістам.

Заробак у Наташы быў невялікі — 2 мільёны 300 тысяч. Грошы ішлі на тое, каб заплаціць за інтэрнат, купіць нешта паесці і набыць квіткі дадому, бо Наташа заўжды чакала пятніцы, каб паехаць да бацькоў. Грошай, каб набыць сабе рэчы, дзяўчыне не хапала, таму вопратку ёй заўжды набывала маці. Каб падзарабіць, Наташа не толькі рэдагавала тэксты, але вырашыла і сама напісаць колькі артыкулаў у газету. Але калі пабачыла свой разліковы, то зразумела, што гэта фактычна ніяк не адбіваецца на яе заробку. Ганарар за адзін матэрыял быў не больш за пяцьдзясят тысяч рублёў.

Тым не менш, Наташа не скардзіцца. Бо гэта адпрацоўка прынесла ёй, можна сказаць, асабістае шчасце.

**Наташа марыла паступаць на журфак, калі яшчэ вучылася ў 9 класе. Тады дзяўчына напісала нататку пра КВЗ у сваю раённую рэчыцкую газету, дзе і пачала далей публікавацца**



## Прыйшла ў рэдакцыю і знайшла мужа

«Наташа, падзяліся сакрэтам, як жа ў першы год адпрацоўкі ты выйшла замуж?» — цікаўлюся я.

«Калі я прыйшла працаваць у рэдакцыю, усе маладыя супрацоўнікі былі ў адпачынках. І ў рэдакцыі засталіся толькі сталыя жанчыны, акрамя аднаго хлопца, Сяргея, які працаваў тэхнічным рэдактарам. Таму, можна сказаць, нам проста прыйшлося пачаць разам камунікаваць. І аказалася, што нам ёсць пра што паразмаўляць. Сяргей мне спадабаўся. Я, напэўна, яму таксама. Хутка мы ажаніліся».

На другім годзе адпрацоўкі, Наташа ўжо пайшла ў дэкрэтны адпачынак.

Слухаеш гісторыю Наташы і пераконваешся, што законы чалавечых лёсаў ніхто не адмяняў. «Калі выходзіла замуж, было такое адчуванне, што толькі за мужам у Чачэрск я і прыехала», — кажа дзяўчына.

Наташа не можа нічога кепскага сказаць ні пра кіраўніцтва рэдакцыі, ні пра калектыў, з якім давялося працаваць. Але прызналася шчыра, што працягваць працаваць там далей не хоча. Яна там не бачыць ніякіх перспектыў. Больш за тое, шмат ведаў, якія мела, па словах Наташы, яна наўпрост растраціла: «Калі раней, разглядаючы тэкст, я бачыла, якія фігуры там ужываюцца, то зараз мае навыкі пакрываюцца іржой. Раёнкам не патрэбны выпускнікі Інстытута журналістыкі БДУ са шматлікімі ведамі і ідэямі, ім патрэбны нехта папрасцей, рамеснікі».

Таму ўжо вырашана дакладна, што сям'я ў Чачэрску не застанецца. Пасля выхаду з адпачынку па доглядзе за дзіцём Наташа будзе далей шукаць працу па спецыяльнасці ў іншых рэдакцыях. Калі нічога не знойдзецца, то дзяўчына не супраць крыху адыйсці ад працы стылістычнага рэдактара.

## Пазбягаць размеркавання ці не пазбягаць...

«Калі ёсць магчымасць не ехаць у глыбінку, то лепш, канечне, не ехаць, — раіць усім студэнтам Наташа. — Хаця, канечне, газета газеце розніца. Калі ты пры вучобе меў досвед хаця б нейкай падпрацоўкі ў Мінску, то, з'ехаўшы ў глыбінку, ты дакладна расчаруешся. Лепш пастарацца дзесьці замацавацца ў сталіцы. Сталіца — гэта перспектыва, магчымасці прафесійнага і асабістага росту, пашыранае кола сяброў і, прынамсі, заробак, які пераважае 2 300 000...»

Магчыма, хтосьці не пагодзіцца з Наташай. Але мне чамусьці падаецца, што гісторыя Наташы — усё ж такі прыклад удалага размеркавання. Замест таго, каб два гады жыць «ад пятніцы да пятніцы» і хадзіць у мясцовы кінатэатр як у адзіны сродак аддушыны, дзяўчына вучыцца цяпер быць добрай жонкай і гаспадыняй. Сама Наташа так і прызнаецца: «Мне пашанцавала, што я сустрэла Сяргея».

Дый хто ведае, дзе хаваецца шчасце кожнага? А раптам, яно чакае цябе таксама дзесьці ў самым далёкім куточку Беларусі?

# «БАСКІ» — FOREVER!

Увесну гэтага года пабачыць свет чарговая кніга вядомага беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага «Бой з сабой». Большая частка кнігі была напісана ў бабруйскай калоніі. У асноўным кніга прысвечана творчасці Эдуарда Акуліна. Аднак шмат цікавага чытач даведаецца пра самога Алеся і пра яго асяроддзе. Багата будзе і фатаздымкаў.

Чытачы «Новага Часу» маюць унікальную магчымасць першымі пазнаёміцца з урыўкам з новай кнігі Алеся Бяляцкага. Менавіта гэту частку Алесь прапанаваў адмыслова для НЧ. Дзякуй яму за гэта!

Алесь БЯЛЯЦКІ

**Прапаную чытачам «Новага Часу» раздзел са сваёй новай кнігі «Бой з сабой» пра Едруся Акуліна, выбітнага беларускага паэта, барда, майго сябра з сямнаццаці гадоў. Тры дзесяцігоддзі мы з ім, можна сказаць, разам ідзем па жыцці, то набліжаючыся, то аддаляючыся, але ніколі не пакідаючы, не губляючы, не забываючыся і не выдаляючы адзін аднаго са свайго жыцця.**



Едрусь Акулін і Алесь Бяляцкі. Гомель, 1980 г.

### Пра сябра і пра сябе

Мы разам вучыліся пяць гадоў у адной групе ў гомельскім універсітэце. Падчас вучобы два гады жылі ў інтэрнаце на вуліцы Кірава на адным паверсе, а затым яшчэ два гады ў інтэрнаце на вуліцы Савецкай у адным блоку. Два гады пражылі разам у адным пакоі, а затым, калі Едрусь ажаніўся, на апошнім курсе два месяцы жылі ў суседніх пакоях. Мы разам ездзілі ў будатрады ў Хойніцкі раён і на Пскоўшчыну, адбывалі практыку ў піянерскім лагеры ў Клёнках, пад Гомелем, разам гралі ў музычным гурце «Баскі», хадзілі на ўніверсітэцкае літаратурнае аб'яднанне «Крынічка», абедалі ў студэнцкай сталоўцы, таньчылі на дыскатэках у інтэрнаце і ўніверсітэце, ездзілі на археалагічныя раскопкі ў Мір і адпачываць у Крым. Мы ездзілі ў родную вёску Едруся, у Вялікія Нямкі на Веткаўшчыне, пад расейскую мяжу, мы разам пачалі размаўляць па-беларуску, абодва спрабавалі пісаць: Едрусь — вершы, а я — прозу. Пазней,ужо жывучы ў Менску, мы восем гадоў разам працавалі ў музеі Максіма Багдановіча, разам удзельнічалі ў мітынгах і дэманстрацыях у абарону незалежнасці і дэмакратыі ў Беларусі. Таму, пішучы пра сябра, я буду пісаць і пра сябе.

Я мяркую, што ўвесь час сумовячыся, размаўляючы, чытаючы, робячы разам нейкія справы, прыходзячы да сур'ёзных у нашым жыцці супольных высноваў, мы моцна ўплывалі адзін на аднаго, на рысы свайго характару, на паводзіны і жыццёвыя погляды. Ні з кім, як з Едрусем Акуліным, мне не было так па-свойску, па-сяброўску, так спакойна і душэўна ўтульна, хаця ў нас даволі розныя характары. Едрусь — рэзкі, узрыўны і безапеляцыйны ў ацэнках і ўчынках, я, падаецца, больш разважлівы і стрыманы, але больш захапляльны, рызыкоўны і апантаны, калі ўжо што бяру ў галаву, то газую да плешкі.

Было ў нас і багата падобнага, што прыцягвала адзін да аднаго. Што гэта — захапленне прыгожым пісьменствам? Беларускай мовай? Музыкай, песнямі і больш ахопна — Беларушчынай? Жаданне вырасці творчымі асобамі? Разуменне адзін аднаго? Псіхалагічная сумяшчальнасць? Так, усё так. І што, мабыць, самае істотнае, што не дало распасціся сяброўству, гэта тое, што мы ніколі не падстаўлялі і не падводзілі адзін аднаго…

### Музычная гісторыя. Пачатак

Я з розных нагодаў, час ад часу, але заўсёды, згадваю наш рок-гурт «Баскі». Так ганарліва мы называлі сваю студэнцкую рок-банду. Усё ў ім было навырост. Усё ў спадзяванні. І самае першае, што я згадваю пра «Баскаў», гэта страшэнны грукат, дзынканне гітараў і завыванне мікрафону, які пастаянна фаніў ад калонак. У падсобным памяшканні, дзе была скінутая ўніверсітэцкая студэнцкая апаратура і дзе мы збіраліся на рэпетыцыі, была высокая, на два паверхі, столь. Рэха ад нашых музычных практыкаванняў адбівалася ад голых бетонных сценаў, ад столі і біла па вушах так, што часта нашы ў асноўным бяскрыўдныя лірычныя кампазіцыі з элементамі хард-року ператвараліся ў сапраўдны цяжкі метал. Вось там, на нашых рэпетыцыях, мы і былі праўдзівым рок-гуртом.

Пачалася наша музычная гісторыя ў 1981 годзе. Наша беларускасць, якая прарэзалася, як зубкі ў малога дзіцяці, патрабавала выйсця, і музыка была такім натуральным рэчышчам-формай, а беларускія тэксты — зместам. І Едрусь Акулін, і я, жывучы ва ўніверсітэцкім інтэрнаце на вуліцы Кірава, брынькалі на гітарах. У кожнага з нас была свая гітара. Я брыньчэў яшчэ класа з сёмага, перапяваў, як багата хто тады, розны вулічны шансон і сам спрабаваў складаць нейкія лірычна-сентыментальныя тэксты на паводзьля, цыгуча-сумныя, баладнага кшталту мелодыі.

У будатрадзе, у які мы ездзілі пасля першага курсу ў Хойніцкі раён, у вёску Бабчын, будаваць цагляныя хаты, на гітары грала некалькі чалавек. Кожны спяваў нешта сваё, пачутае і ўзятае са сваіх кампаніяў. Мы перапмалі адзін у аднаго тое, што нам спадабалася, а пазней часта спявалі і разам, і паасобку. Ізноў жа, у асноўным гэта былі лірычна-сентыментальныя балады. Тады мы адчулі, наколькі, здавалася б, простыя тэксты і няхітрыя мелодыі, аб'яднаныя і атрымаўшыя эмоцыю голасу, моц спеву, маглі зайграць, заблішчэць і паўплываць на пачуцці кожнага чалавека. Далучыўся да нас у спевах і студэнт-гісторык Сяргей Скачынскі, які жыў у інтэрнаце ў адным пакоі з Едрусем. Мы разам былі ў будатрадзе. Затым мы часта спявалі ў іхнім ці ў маім пакоі ўтрох пад дзве або пад тры гітары.

Едрусь, колькі я яго памятаю, заўсёды любіў спяваць. Мяне гэтая яговая здольнасць заўсёды ўражвала крыху пазней, праз год, калі на 4-м курсе, з восені 82-га года, мы пачалі жыць разам у адным пакоі ў інтэрнаце кватэрнага тыпу на вуліцы Савецкай. Мы не паспявалі яшчэ прачнуцца, уставалі, апраналіся, у пакоі жылі мы ўтрох, яшчэ з адным студэнтам-эканамістам Валодзем, калекам ад поліяміэліту, якім ён перахварэў у дзяцінстве, а Едрусь ужо пачынаў спяваць. Ён штосьці напяваў, спрабуючы голас, пускаў розныя трэлі і рулады, выглядаў вельмі задаволеным і вясёлым, і хоцькі-няхоцькі ўздымаў з самага ранку і нам настрой. Я ж заўсёды чай прачынаўся крыху млявым, недаспаным і негаваркім. Але спевы Едруся былі як асвяжальны глыток ранішняй кавы.

У маім жыцці быў яшчэ адзін чалавек, які любіў спяваць і заўсёды спяваў, нават яшчэ болей за Едруся. Гэта была мая маці. Яна спявала дома, гатуючы, вяжучы, робячы іншую хатнюю работу. Яна спявала і спявала сама сабе, напявала па куплету, па прыпеву з народных песень, пачутых у дзяцінстве і юнацтве, з усяго, што чула і схапіла з радыё і кружэлак у 50–60-я гады.

У Едрусевым жыцці быў свой прыклад стаўлення да музыкі. Ягоны бацька скончыў музычную вучэльню і быў адметным музыкам-баяністам, знаным на ўсю акругу. І хоць ён вельмі рана пайшоў з жыцця, але ягоная любоў да музыкі і здольнасці перадаліся Едрусю.

### Інтэрнацкае жыццё

Я яшчэ хачу на трохі вярнуцца ў наш студэнцкі інтэрнат на вуліцы Кірава. Ён мне нечым нагадвае казарму, у якой я зараз жыву. Такія ж агульныя прыбіральні, пакоі, у якіх месціліся па чатыры студэнты, агульная варыўня і агульны душ на першым паверсе (вось гэтых выгодаў зараз у мяне няма, у ядальню і ў лазню мы ходзім строем). Убогае жытло, якое нам з Едрусем, першы курс прабадзяўшыся па кватэрах і хатах, здавалася зручным і ўтульным.

Жыццё там было вясёлае і нават, можна сказаць, разнявоенае. Інтэрнат быў у асноўным дзявочым царствам. Калі на факультэтах матэматыкі, эканомікі, на гістарычным факультэце нашага ўніверсітэта хлопцаў і дзяўчатаў было прыкладна пароўну, то на біялагічным ужо было больш дзяўчатаў, а на філалагічных, беларуска-рускім і рускім аддзяленнях, нераўнавага была проста вялізнай. На нашым курсе са ста студэнтаў-філолагаў хлопцаў не было і дваццаці чалавек. У нашай групе была 21 дзяўчына і 4 хлопцы. Але пры ўсім гэтым дзявоцкім кветніку вакол нас, мы не распусьнічалі. Былі нейкія лёгкія і нядоўгія захапленні, але да распусты справа не даходзіла…

У інтэрнаце, каб знайсці сэксу, не трэба было далёка хадзіць. До было ўвечары, пасля заняткаў, выйсці з пакою, дзе я жыў, як можна было ўбачыць грузнаватую, цыцкастую дзяўчыну-матэматыцу, якая почасту стаяла ў адчыненым праёме дзвярэй свайго пакою, адной рукою падпёршыся ўбок, а другой упёршыся ў дзвярны касяк. Яна зазыўна пасміхалася, падмышкі на яе брунатнай вадалазцы былі цёмныя ад поту. Дзяўчынаў такога кшталту я бачыў ужо значна пазней і ў



Анатоль Сыс, Едрусь Акулін і Алесь Бяляцкі. Бабчын, 1980 г.

# «БАСКІ» —


Едрусь Акулін з бацькамі. Вялікія Нямкі, 1967 г.

большай колькасці на вуліцах Жэневы і Брусэлю.

Але нам такія стасункі з дзяўчатамі былі нецікавымі і непатрэбнымі. Мы былі больш духоўна настроеныя, хаця не цураліся дзявочых кампаніяў, хадзілі ў дзявочыя пакоі вячэраць, піць гарбату, гаманіць, граць на гітары і спяваць. Весялей было з дзяўчынамі разумнымі і інтэлектуальна развітымі. Нашымі сяброўкамі былі, і не раз паілі нас гарбатай і Воля, і Ліля, маладзейшыя за нас на курс, першая з якіх стала паэткай Вольгай Куртаніч, а другая — мовазнаўцай Ліляй Плыгаўкай. Вось у гэтым вясёлым інтэрнацкім балагане мы пражылі два гады. Там жа і нарадзілася думка стварэння беларускамоўнага студэнцкага рок-гурта.

### Беларускае пытанне

Утварэнне «Баскаў», як можна зразумець, мела арганічны падмурак, але справа можа б і не дайшла да арганізацыі гурта, каб не гэтае заклятае для нас беларускае пытанне. «Баскі» — ад пачатку былі спланаваным беларускім праектам.

У верасні 81-га года, прыйшоўшы на трэці курс, мы з Едрусем свядома пачалі размаўляць па-беларуску. Яму было прасцей, ён вярнуўся да мовы, роднай яму з дзяцінства, дадаўшы да яе набыты запас літаратурных словаў, мне — складаней, бо ўсе свае дзевятнаццаць гадоў я быў прадуктам русіфікацыі і размаўляў па-руску. Але дзесьці ўжо праз месяц асноўныя праблемы ў маўленні я пераадолеў.

Хутка з намі заразмаўлялі і нашы сябры, знаёмыя, студэнты. І калі нашыя сябры былі ў асноўным двухмоўныя, дык мы па-беларуску гаварылі паўсюль — і ў інтэрнаце, і з дзяўчатамі, і на рускамоўных лекцыях, розных псіхалогіях і педагогіках, і нават на лекцыях па рускай літаратуры. Мы збеларусіліся канчаткова і беспаваротна. Мне неўтаймавана хацелася ўплываць на іншых людзей, папулярызаваць беларускую мову, уздымаць нацыянальную свядомасць. Да гэтага натуральнага асветніцтва, адраджэнскага шляху падахвочвалі і наладжаныя мной кантакты з свядомымі беларускімі студэнтамі-менчукамі Вінцуком Вячоркам ды іншымі.

Мне тады ўяўлялася, што мы, як актыўныя атамы, піхаючы, расштурхоўваючы іншых, перадаючы ім свой беларускі станоўчы зарад, непазбежна выклічам ланцуговую рэакцыю, якая прывядзе да ўтварэння моцнай беларускай свядомай інтэлігенцыі, а тая, у сваю чаргу, усвядоміць шырокія масы простага народу. Я любіў марыць, што вось за сваё жыццё я загітую, пераканаю, напрыклад, сорак чалавек размаўляць паўсюдна па-беларуску, а тыя, у сваю чаргу загітуюць іншых, няхай па два дзясяткі, а трэція — чацвёртых, хай па дзясятку, а чацвёртыя, якіх будзе ўжо восем тысячаў, хоць па пяць чалавек пятых, а сорак тысячаў пятых загітуюць па два чалавекі шостых, і вось, гадоў праз сорак ад мяне аднаго з'явяцца — восемдзясят тысячаў свядомых беларусаў! На гэта не шкода было пакласці сваё жыццё.

Апроч «вярбоўкі» актывістаў, неабыякавых да беларушчыны, я разумеў, што былі неабходныя ідэі, якія б паказвалі і падавалі беларушчыну і найперш беларускую мову ў выгодным і прывабным святле. Слава і ўплыў «Песняроў» ужо міналі. У 70-я гады яны вывелі беларускую песню з вёскі на гарадскія вуліцы. Але прыйшлі 80-я, рок-гурт, які спяваў бы па-беларуску, падаваўся такой выдатнай задумкай. Не дзіва, што пры нашым захапленні спевамі пад гітару, гэтая ідэя была прагавораная ў нашых з Едрусем размовах.

Я не памятаю дакладна, хто першым загаварыў пра гэта, мне здаецца, што — я, але гэта мог быць і Едрусь. Я з нехаццю ўжываю гэтыя словы — «вярбоўка», папулярызацыя, але такая была савецкая рэчаіснасць, пры якой мэтанакіравана, згодна з «навукаю», знішчалася ўсё беларускае, нацыянальнае. І хоць на лекцыях, ва ўніверсітэце, і ва ўсіх газетах і па тэлевізіі бясконца казалася і сцвярджалася пра ўтварэнне і развіццё новай гістарычнай супольнасці, да якой мы ішлі, якую мы будавалі і ў якую мусілі пераўтварыцца — пра савецкі народ, але мы не хацелі такой будучыні. Мы адчувалі, разумелі і ўсведамлялі, што гэта — грандыёзны падман.

Яго сутнасць сфармуляваў чэшскі пісьменнік Мілаш Кундэра, эсэ якога даслалі мне сюды, на зону. Ён лічыў, што камунізм быў прыстасаваны Расіяй для «здзяйснення цэнтрабежных тэндэнцыяў ды імперскіх пажадаў», што Расія была «нацэленая на пераўтварэнне ўсіх нацыяў, якія ўваходзілі ў імперыю (украінцаў, беларусаў, армян, латышоў, літоўцаў і астатніх) у адзіны рускі народ (ці, як выказваюцца ў эпоху агульнапрынятых моўных містыфікацыяў, у «адзіны савецкі народ»).

Мы дайшлі да гэтых жа высноваў самі, самастойна, адчуваючы тую несправядлівасць, якая рабілася з нашым народам, з яго моваю і культураю, сваёй скурай. Гэтак жа ж, як Мілаш Кундэра, мы выдатна разумелі, хоць тады і не чыталі яго, што «руская мова душыць мовы іншых нацыяў савецкай імперыі», бо «савецкая бюракратыя — глыбока пазанацыянальная, антынацыянальная, мае патрэбу ў інструменце для ўніфікацыі краіны». Мілаш Кундэра не любіў Расію за тое, што ў 1968 годзе, «акупаваўшы Чэхаславакію, Расія зрабіла ўсё для таго, каб знішчыць чэшскую культуру». Як жа мы мусілі ставіцца да рускай культуры, калі знаходзіліся ў горне ўсіх гэтых савецкіх эксперыментаў. І які ж юначы запал і безагляднасць мы мусілі мець, адважыўшыся стаць у супраціў гэтаму вялізнаму савецкаму монстру.

### Музычная гісторыя. БАСКІ

Я знарок спыняюся на ідэалагічнай аснове стварэння «Баскаў», каб паказаць, што яна насамрэч была. Але ідэалогія ідэалогіяй, а ў жыцці ўсё было значна весялей. Сярод нашых аднакурснікаў апынуўся вельмі неблагі бубнач — Толік Кавалёў. Ён быў гомельскім хлопцам, жыў на Аэрадроме, па-беларуску размаўляў толькі з намі. Удома ён меў ударную ўстаноўку, заліхвацкі грукаў на бубнах і біў у латунныя талеркі.


Алесь Бяляцкі. 1981 г.

І ўсё неяк разам супала: і нашае жаданне граць, і некалькі песень было, якія напісаў Едрусь, і падабраўся склад музыкаў з сяброў-аднакурснікаў. Едрусь быў лідарам нашага музычнага гурта, ён меў найлепшы голас, пісаў музыку і тэксты, ён граў на рытм-гітары. Я, скончыўшы чатыры класы музычнай школы па домры, меў добра пастаўленыя пальцы і мог бы ўзяцца і за сола-гітару. Але я пасля музыкалкі добра ўяўляў сабе той аб'ём практыкаванняў, які трэба было выканаць, каб выйсці на больш-менш прыстойны ўзровень, таму спыніўся на бас-гітары. З басовымі партыямі мне, граючым некалі даволі складаныя творы на маленькай домры, было прасцей. Толік Кавалёў граў на бубнах, а Сержуку Скачынскаму засталася сола-гітара. Так мы і размеркаваліся.

Назву гурта мы склалі з першых літараў сваіх прозвішчаў: Бяляцкі–Акулін–Скачынскі–Кавалёў. Вось і атрымалася — «Баскі». Вызіраў з гэтага назову і поўны грамадска-палітычны падтэкст. На другім краі Еўропы жылі гэтыя баскі — народ без сваёй дзяржавы, які тым не менш, як мог, змагаўся за сваю незалежнасць ды імкнуўся захаваць сваю нацыянальную адметнасць. Іхняя баскская барацьба патаемна перагукалася з нашымі памкненнямі. Мы хацелі, каб і ў нас узнялася хоць якая хваля барацьбы за нашу беларускую незалежнасць. Вось так і ўзніклі «Баскі».

Моцна палегчыла нашае жыццё тое, што факультэцкае начальства не ўбачыла ў нашай музычнай ініцыятыве ніякай крамолы і дазволіла рэпетаваць на ўніверсітэцкіх інструментах. На іх раней граў універсітэцкі музычны ВІА «Радзімічы», які быў досыць вядомы ў 70-я гады. Напачатку 80-х «Радзімічы» перажывалі не лепшыя часы.

Мы па некалькі разоў на тыдзень збіраліся на рэпетыцыі ў сваёй музычнай каморы і грымелі, дзынькалі, пішчэлі і равелі, выціскаючы з гітараў усё, што дазваляў узровень нашай музычнай падрыхтоўкі і сціплаватыя інструменты. На рэпетыцыях мы развучвалі тагачасныя музычныя хіты. На жаль, гэта не была ангельскамоўная рокласіка «бітлоў», «ролінгаў» ды іншых высокаякасных гуртоў. У гэтай музыцы няблага разбіраўся Толік Кавалёў. А я палюбіў іхнюю музыку ўжо пазней. Мы ж развучвалі ўласна «баскаўскія» кампазіцыі ды перапявалі папулярныя на той час расейскія гурты: «Машыну часу», песні Уладзіміра Кузьміна, Юрыя Антонава, гралі таксама вулічны шансон. Чужыя песні мы трактавалі як рэпетытарскія, навучальныя, найбольшую ж асалоду атрымлівалі пры падрыхтоўцы сваіх песень.

Праз пару месяцаў рэпетыцыяў з какафоніі гукаў і бязладнага музычнага вэрхалу ўрэшце пачало вымалёўвацца штосьці больш-менш зладжанае, рытмічнае і падобнае на музыку. Да ўсіх музычных хітрасцяў і тонкасцяў мы даходзілі самі, бо ніхто з нас раней ні ў якіх гуртах не граў. Мы купілі пару педальных «прымочак» на гітары, і гучанне іх стала больш багатым і разнастайным. Шляхам спробаў і памылак мы зрытмавалі гранне бубнаў і бас-гітары. Я трымаўся за рытм бубнаў, як п'яны за плот, але часам забываўся, выпільваючы які-небудзь пасаж і спрабаваў браць на сябе ролю сола-гітары. Бубнач Толік Кавалёў злаваўся на мяне за свавольства і абурана кідаў палачкі. Рэпетуючы, здавалася, што мы ўпадалі ў нейкі музычны транс і трох-чатырохгадзінныя зборкі праляталі на адным удыху. Дзясяткі разоў мы прайгравалі адныя і тыя ж фразы, шліфавалі іх, дабіваліся лепшай якасці, імкнуліся граць зладжана і ў такт.

*Толькі так!*
*Свой трымай кірунак!*
*Толькі так!*
*Ў гэтым наш ратунак!*
*Толькі так!* — гарлаў Едрусь так, што жылы выступалі на шыі і твар ягоны чырванеў ад натугі. А мы дапамагалі, падпяваючы яму: «Толькі так!»

Гэта была сапраўдная рокавая кампазіцыя, нашая каронная візітоўка.

Але большасць песень, якія пісаў Едрусь, былі лірычнымі і спакойнымі:

*Дыктуе лёс няўмольны,*
*І мы з табой няздольны*
*Час спыніць.*

Гэта была чыстая баладная лірыка. Недахоп уласных рокавых кампазіцыяў мы кампенсавалі, перапявалі па-беларуску «Машыну часу»:

*Вось, новы паварот,*
*Што ён нам нясе,*
*Прорву або ўзлёт,*
*І не разбярэш,*
*Пакуль не павярнеш*
*За паварот.*

Так мы гралі і гралі на рэпетыцыях гадзінамі, забываючыся і на палудні, і на вячэры. Урэшце мы адчулі, што можам паказацца на людзях.

### Першы выхад на публіку

Увесну 82-га года надарылася нагода першы раз выйсці на публіку. І было гэта, не цяжка здагадацца, вяселле. Жаніўся Валодзя Папружны, аднагрупнік і зямляк нашага сола-гітарыста Сяргея Скачынскага, з якім яны жылі ў інтэрнаце ў адным пакоі. У тым жа пакоі жыў і Едрусь Акулін. Натуральна, што я быў у іх частым госцем.

Папружны паступіў вучыцца ўжо пасля войска і быў старэйшым за нас на тры гады. Ён трымаўся сам па сабе, у яго былі ўжо ўстойлівыя, дакладныя меркаванні, уяўленні і паводзіны, сфармаваныя ў сям'і і ў войску. Ён любіў парадак, заўсёды трымаўся з саліднасцю, заўсёды хадзіў прычасаны, у чыстым адзенні і вычышчаных туфлях. У інтэрнацкім пакоі 19-гадовым маладзёнам ён асабліва разгуляцца не даваў. Я з ім толькі прыязна вітаўся, як і з усімі, а хлопцы, Едрусь і Сяргей, жывучы разам, часам і елі супольна, дый увогуле, як суседзі па пакоі, мелі больш частыя і цесныя стасункі.

Дык вось гэты Валодзя жаніўся і папрасіў-запрасіў нас зграць у яго на вяселлі. Такім чынам паехалі мы ў траўні 82-га ў Лоеў, упершыню граць на людзях, паказваць, на што мы здольныя.

Лоеў — невялікае беларускае палескае мястэчка, якое стаіць на сутоку шырокіх тут Сожа і Дняпра ды малога Вітача, на землях, спрадвеку заселеных славянамі, Лоеў — брама ў землі дрыгавічоў, крывічаў, радзімічаў і севяранаў. У свой час, як ключ, замыкаў гэтыя водныя шляхі Лоеўскі замак. Праз Лоеўскія брады ў сярэднявеччы ўрываліся на беларускія землі крымскія татары, а пазней — узбунтаваныя казакі. Тут яны былі і разбітыя беларускім ліцвінскім войскам. Лоеў быў апошнім на паўднёвы ўсход з беларускіх замкаў, якія некалі як пярліны былі нанізаныя на суворую сінюю нітку Дняпра: Лоеў, Холмеч, Рэчыца, Стрэчын, Жлобін, Быхаў, Магілёў, Ворша

# FOREVER!



**«Баскі», 1982 г.**

— тыя паселішчы з замкамі на Дняпры, якія я згадваю па памяці. Захаваўся з іх толькі замак у Быхаве, ад астатніх засталіся адно замчышчы. Скрозь паўз Дняпро, які даваў і працу, і ежу, тысячагоддзямі тут жылі людзі.

Вось там, у Лоеве, на хатнім двары была змайстраваная з рэек і брусоў вялікая альтанка, абцягнутая тоўстым поліэтыленам. Запрошаныя на вяселле госці сядзелі і ў хаце, у якой былі расчыненыя і дзверы, і вокны, і ў гэтай альтанцы, на лавах, вакол вялікага агульнага стала. Мы гралі побач, у двары, дзе таньчылі і весяліліся госці.

Мы гралі, былі занятыя і закапочаныя і якасцю музыкі, і спевамі, мы хваляваліся, бо ж выступалі ўпершыню. Падвыпіўшыя госці былі задаволеныя і непатрабавальныя. Жывы музычны гурт, ды яшчэ з Гомеля, быў для лоеўцаў шыкоўным упрыгожваннем вяселля. Мы адыгралі свой «джэнтльменскі набор» — расейскія хіты і свае беларускія кампазіцыі. Вясельныя госці радасна таньчылі. Зямля была яшчэ набрынялая вільгаццю, і гойдаўся пад нагамі ў танцораў, мякка ўгінаўся, чорны, вільготны дол.

Увечары нас, крыху стомленых, але задаволеных, што не падвялі яшчэ болей за гасцей, замяніў нейкі дзядзька-баяніст, а яго ў сваю чаргу — магнітафон. Мы здолелі самі пад'есці і агледзецца. А госці разгуляліся ва ўсю. Аднекуль з'явілася абрджаная ў кажух жанчына з намазанымі сажай вусамі, з падвязанаю чырвонаю морквай паміж ног. Пасыпаліся вясельныя вострыя жарты, датычныя жаніха і нявесты, загучалі прыпеўкі, такія, што ад смеху аж слёзы каціліся з вачэй. А потым на жэрдцы высока была ўзнятая абезгалоўленая кура. Жанчыны штосьці спявалі, вясёлае і распуснае, трэслі гэтай жэрдкаю, варушылася цельца куры з крывавай шыяй. Цьмяна блішчэла ў заходзячым святле сонца зліплае ад крыві пер'е.

Гэта была крывавая ахвяра, мабыць, старым славянскім багам, каб шлюб удаўся. Такія паганскія танцы і крывавы абрад я ўбачыў упершыню.

### Яе звалі Наталя

Падчас танцаў пад магнітафон я пазнаёміўся з адной дзяўчынай у крэмавай сукенцы з кароткім рукавом, з коратка падстрыжанымі кучаравымі чорнымі валасамі. Мы таньчылі некалькі разоў пад павольную музыку. Як толькі гучаў павольны танец, я шукаў вачамі яе ў натоўпе, падыходзіў і запрашаў. Яна ўсмешліва пагаджалася, і цяпер ужо пад нашымі нагамі мякка калывалася зямля. Позна ўвечары, калі госці паступова пачалі разыходзіцца, я павёў праводзіць яе дахаты. Яе звалі Наталя, ёй было 18 гадоў, яна была стрыечнай сястрой маладога, таму і прыйшла на вяселле. Яна вучылася ў лоеўскай педвучэльні на настаўніцу малодшых класаў. Мы прагулялі па ціхіх цёмных лоеўскіх вулічках і працалаваліся ўсю ноч. Наталя была ціхай і маўклівай, усё больш пасміхалася, гаварыў пераважна я і пра штосьці ў яе распытваў. Тады яна адказвала на мае пытанні. Урэшце пад раніцу, развітаўшыся з ёй і дамовіўшыся сустрэцца ўдзень, з светлым і лёгкім настроем я заваліўся спаць у бацькоўскай хаце маладой на вызначаным мне месцы.



**Алесь Бяляцкі з жонкай Наталляй. Гомель,1984 г.**

Назаўтра мы ўжо не гралі. Разам з гасцямі, якія ізноў напоўнілі хату і двор, мы селі за стол. Неўзабаве прыйшла гэтая маладзенькая чарнявенькая і кучаравенькая сваячка маладога. Зранку яна спадабалася мне яшчэ болей. У яе былі выразныя рысы твару, роўны авал тварыка, які звужаўся да падбародка, і вельмі далікатная скура. Я чытаў некалі перад гэтай сустрэчаю з ёй вершы персідскіх паэтаў. Там яны параўноўвалі аблічча персідскіх прыгажунь з пяшчотным і далікатным персікам. Калі я паглядаў на сваю новую знаёмую, дык разумеў, што вось менавіта пра такіх персіянак і пісалася ў іхніх рубаі.

Пасля ранішняга застолля мы схадзілі з упадабанай мною дзяўчынай на недалёкі бераг Дняпра. Яна паказала мне веснавы разліў. Дняпро ўразіў. Мы стаялі на двацццаціметровай строме берагу, каля ніткі старых акопаў, якія цягнуліся ўздоўж. Наколькі бачылі вочы, уся бяскрайняя прастора ўнізе была залітая вадою. Ярка свяціла травеньскае сонца. Дзьмуў, насычаны веснавой вільгаццю, свежай травой і рачнымі пахамі, цёплы вятрыска. Дзесьці далёка-далёка, кіламетрах у двухцаці, за морам вады з зеленкаватымі купамі залітых рэдкіх дрэваў, шэрай ніткай цямнеўся лес.

Наваколле, прастора вады, пахі, прыгожая дзяўчына побач — адчуванне шчасця напоўніла мяне. Мы пацалаваліся на гэтым высокім беразе Дняпра яшчэ можа разы з два. Пасля начных пацалункаў яшчэ смылелі вусны. Затым вярнуліся на вяселле і проста трымаліся астатнія гадзіны перад абедам побач і разам. Дзесьці ў абед трэба было развітвацца і ад'язджаць. Пад'ехаў аўтобус, мы загрузілі свае інструменты, у пасажырку селі таксама тыя з гасцей, каму трэба было дабрацца да Рэчыцы, праз якую мы мусілі праехаць, і да Гомеля. Праз шыбу я махаў дзяўчыне, з якой пазнаёміўся, таньчыў і цалаваўся ўсю ноч. Яна пасміхалася мне ў адказ. І ў мяне было адчуванне, што я згубляю штосьці такое, што я не павінен згубіць. Былі ў мяне знаёмыя дзяўчынкі і дагэтуль. Але вось такое адчуванне з'явілася ўпершыню.

Вось так адбыўся першы музычны выступ «Баскаў» на людзях. Я б не апісваў так падрабязна сваё мімалётнае і кароткае спатканне з лоеўскай чарнявай прыгажуняй-«персіянкай» Наталляй, якое было лёгкім фліртам, калі б не атрымалася так, што праз пяць гадоў яна стала маёй жонкаю.

Мы працягвалі зрэдку граць на вяселлях у сваіх сяброў, а аднойчы паехалі даваць танцы ў Вялікія Нямкі, на радзіму да Едруся Акуліна. У вясковым клубе была свая апаратура, а штосьці мы прывезлі самі. У клуб сабралася ўся навакольная моладзь з Нямкоў і суседніх вёсак. Адыгралі мы з поспехам, па некалькі разоў паўтараючы некаторыя свае беларускамоўныя кампазіцыі, пад якія моладзь таньчыла асабліва заўзята. У Вялікія Нямкі пасля таго мы наязджалі шмат разоў...

Ладзілі танцы мы таксама ў клубе ў вёсцы Астрагляды ў Хойніцкім раёне, дзе жыла бабуля Сержука Скачынскага, нашага сола-гітарыста. А затым гралі на ягоным вяселлі ў вёсцы Стаўбун Веткаўскага раёна. За жонку ён узяў дзяўчыну з нашай групы, Галю Панкову, русакосую і галасістую аматарку паспяваць разам з намі, у аўдыторыі, падчас перапынкаў паміж лекцыямі, беларускія народныя песні. Яны пазнаёміліся і ўпадабалі адзін аднаго ўсё ў тым жа інтэрнаце на Кірава, дзе жыла і Галя.

### Агульным вагонам у Крым

Але яшчэ перад гэтым, увосень 82-га года, ужо ў кастрычніку, маючы вольны ад заняткаў тыдзень, мы ўтрох — я, Едрусь і Сяржук Сканчынскі — ездзілі адпачываць дзікунамі ў Крым. Праезд у агульным вагоне з Гомеля да Сімферопалю па студэнцкім білеце са зніжкай напалову каштаваў пяць рублёў. Атрымаўшы 40-рублёвыя стыпендыі, заплаціўшы з іх па 10 рублёў за праезд туды-сюды, з астатнімі грашыма, з намётам і спальнікамі мы паехалі ў Крым. Мы дабраліся да Алушты, адышлі ад гораду па ўзбярэжжы кіламетры з тры і паставілі сярод лясу з невысокай крымскай хвоі недалёка ад берага мора намёт. У першую ноч было ветрана. Устурбавана, як магутная жывёла, шумела-ўздыхала мора, і мне здавалася, што вось-вось наш намёт разам з намі зліжа высокі і грозны марскі вал. Бераг дрыжэў і калаціўся ад націску мора. Неяк пераначавалі мы, штораз прачынаючыся і падхопліваючыся. А потым наступіла раніца. Было ціха, сонечна і зусім цёпла. Гэткая ж цёплая, летняя была і вада.

Мы адцягнулі намёт далей ад берагу, распалілі вогнішча, зварылі бульбы, якую прывезлі з сабой, пад'елі і пайшлі з Едрусем у горад купіць віна і харчоў. На набярэжнай Алушты стаялі аўтаматы з газіроўкай. Мы падышлі да аднаго, агледзелі яго, аказалася, што за манетку ў дзвяцдзь капеек ён налівае шклянку маладога вінограднага віна. Гэта быў вінны аўтамат. Мы выпілі па маліноўскім, віно было лёгкае, свежае і спатольнае. Мы паўтарылі і захмялелыя крыху зайшлі ў бліжэйшую лаўку, купілі штосьці з ежы і пляшку марачнага мацаванага «Какуру», даражэйшага за сухое віно, і яшчэ адну трохгадовага масандраўскага «Партвейну», а таксама штосьці яшчэ з больш паэтычнай назваю, але таксама марачнага і салодкага. Пасля нашага заўсёднага беларускага яблычнага «чарнільца» ці ўкраінскага «Білого міцного», якое закаркоўвалася бляшаным коркам, як піва, ці азербайджанскага «Агдаму», якое чамусьці называлася «вінаградным партвейнам», а было насамрэч брыдкай барматухаю, масандраўскія віны падаліся нам напоем старых грэцкіх багоў.

Наступныя некалькі дзён мы толькі тое рабілі, што не рабілі нічога. Мы хадзілі ў Алушту папіць «газіроўкі» і закупіць марачнага віна. Кожны дзень бралі штосьці іншае — і «Мадэру», і «Херэс», і нейкія «Даліны» і «Ночы», адзіны «Какур» заставаўся нязменным улюбёнцам. Песня гурта «Дыялог» — «Люблю волчек — забаву детства», загучала па-іншаму: «Люблю «Какур» — забаву дзецтва».

Перайначваць вядомыя песні на свой капыл — была нашай заўсёднай забаваю. Затым мы гатавалі ежу, купаліся, апаляліся пад ласкавым восеньскім сонцам. Яшчэ браўся загар, і мы хутка падсмажыліся, лежачы на дзікіх і пустых камянях. Мы былі адны. Мы адлівалі ў бляшаныя кубкі з пляшкі кожны сабе віна, распаўзаліся, як цюлені, на цёплыя камяні і пацішу цмакталі вадкі п'янкі вінаград. Нават размаўляць у такія хвіліны нам не хацелася, бо знаходзіліся мы ў стане, блізкім да нірваны.

Бераг, аб які плёхалі марскія хвалі, быў камяністы. Некалькі вялікіх скальных камянёў тырчэлі з вады. Адная ўпадзінка на такім камяні нагадвала адшліфаваную вадой каменную ванну. Мы ўпадабалі залазіць туды па адным і чакаць, пакуль марская хваля не пераскочыць праз бераг каменнага ложа і не абдасць ляжачага там важкай марской плюхай вады і пены. Купальшчыка гойдала туды-сюды. Астатнія паглядалі ды смяяліся. Вада вылівалася праз шчыліны прыроднай ванны. Мора гулялася з намі.

### Адзінокі дэльфін і могілкі

Аднаго ранку мы бачылі адзінокага дэльфіна, які рытмічна ныраў на далягладзе. Яшчэ ў іншы дзень уся вада, у якую мы скокнулі ўсе разам, была поўная матавых медузаў. Мора нагадвала густы суп з клёцкамі. Медузы нас не пабстрыкалі, але мы павыскоквалі з вады як ашпараныя. А цёмначы, па беразе пачыналі бегаць-шуршэць маленькія, з савецкі жалезны рубель, крабікі. Увечары сонца хутка заходзіла за высокі схіл гары і станавілася па-восеньску цёмна. Паўднёвая цемрадзь, як сажа, ахутвала бераг. Толькі злёгку блішчэла мора і ўдалечыні свяціліся ціхія таямнічыя агні караблёў. Усё было так дзіўна, так прыгожа, так непадобна на сціплыя краявіды нашай Гомельшчыны. Вадкае настоенае пахкае масандраўскае віно разбавіла нашу цягучую беларускую кроў. Хацелася запомніць і мора, і пахі пухнатай крымскай хвоі, і гучны строкат цыкадаў, запомніць так, каб не забыцца да апошняй секунды, да апошняга ўздыху такога доўгага яшчэ і радасна-цікавага жыцця.

Аднаго разу ўдзень мы ўскараскаліся на гару. Схіл яе да мора быў стромым, і мы з цяжкасцю прабіраліся праз чарналессе. На самай вяршыні мы ўбачылі невялікія, можа, з дзесяць капцоў, могілкі. Адваротны бок гары быў больш схілы, але ўсё роўна апошнія метраў сто ўзнасіліся рэзка ўгару. Відаць, калі сюды некалі ўзнімалі труну, дык даводзілася вось гэты адрэзак апошняга шляху несці яе на руках. Прысады з высокіх цёмных кіпарысаў пазначалі нітку старой, зарослай зараз хмызняком дарогі. З нейкай тугой і сумам паглядалі мы на высокі мармуровы крыж, які стаяў на магіле сямнаццацігадовай дзяўчыны. Думалася, што як гэта няслуш-

на і несправядліва — памерці ў сямнаццаць гадоў! Кожны з нас міжволі прымервае яе нядоўгае жыццё да свайго. Як гэта магчыма, памерці такой маладой, калі вакол гэткі чароўны, напоўнены жыццём свет, калі ўсё, усё яшчэ наперадзе, калі ты заглядаеш сабе ўсярэдзіну і адчуваеш, як ты напоўнены яшчэ неакрэсленымі і няўцямнымі марамі і задумамі, калі ты, як клён у сакавіку, напоўнены салодкім сокам жыцця і вось-вось гатовы распусціць свае зялёныя шаты... Верад жыцця бурлеў у нашых жылах, і кожная клетачка цела была напоўненая незгасальным імпэтам.

І хоць мы гэта ведалі не горш, а, можа, і лепш за іншых сваіх аднагодкаў, бо багата чыталі, але нам у той момант і ў галаў не прыходзіла, што ў гэтым самым, нашым 20-м стагоддзі, калі мы нарадзіліся, выраслі і жылі, на гэтай самай еўрапейскай зямлі загінулі, памерлі, былі забітыя розным чынам дзясяткі мільёнаў такіх самых маладзёнаў, як мы, і што яшчэ не нарадзіўшыся, мы ўжо прайшлі жорсткае сіта адбору, бо вынішчаліся без разбору тры папярэдніх пакаленні нашых бацькоў, дзядоў і прадзедаў.

Ніжэй пад могілкамі віднеліся раскладзеныя вялікія вінаграднікі. Мы збеглі ўдол. На карычневай, сухой, камяністай зямлі раслі падвязаныя на шпалеры вінаградныя лозы, а на іх віселі спелыя гронкі зялёна-шызага вінаграду. Мы паздымалі майкі і нарвалі ў іх, няхай нам даруе тутэйшы калгас, пераспелых ужо вінаградных гронак. Вінаградзіны былі цёплыя і мелі п'янкі салодкі водар. Вінаград — дзіця лазы і сонца, бласлаўлёны Богам, ты маеш сонечны смак, а калі дараслееш, пераўвасабляешся ў віно. Мы елі тады яго кілаграмамі, і нам усё было мала і мала. Сіняе мора, мора зеленаватае, чорнае і празрыстае, няўлоўнае ў колеры, як беларускае неба, для нас, беларускіх хлапцоў, звыклых да зялёных лясоў і жоўтых палёў, было адным вялікім дзівам, якое змяніла звыклы свет. Мора ўяўлялася мне адбіткам перакуленага неба, а можа, наадварот, — неба было адбіткам гэтай вечна рухомай істоты, якая жыла сваім жыццём. Мора, як прыгожая жанчына, дазваляла нам любавацца сабой.

## Ялта і Максім Багдановіч

Аднойчы мы схавалі намёт ды іншыя транты ў гушчары кустоўя і паехалі ў Ялту. Хто быў у Сімферопалі і дабіраўся ў Ялту, памятае гэты дзіўны тралейбусны маршрут, некалькі дзясяткаў кіламетраў на тралейбусе, праз Алушту і Гурзуф, усё вышэй і вышэй, на Ангарскі перавал, дзе ўжо закладае вушы, а для нас, палешукоў, звыклых да роўных, як стол, краявідаў, ужо так высока, што аж займае дых, а затым у дол, каля Масандры, да старажытнай ялцінскай бухты, у якой амфітэатрам раскінулася невялікая Ялта, надзвычайна прыгожы горад. Быўшы ў Крыме, мы проста не маглі не пабываць у Максіма Багдановіча.

Мы шукалі магілу Максіма напачатку самастойна, не знайшлі, затым распыталіся ў нейкага дзядзькі, які працаваў там, ён ведаў, дзе пахаваны Максім, і як арыенцір указаў нам магілкі сясцёр Антона Чэхава, да якіх вялі ўказальнікі, і помнік пісьменніку Бірукову. Хоць пра такога пісьменніка мы і не ведалі, але ягоны надмагільны помнік, сапраўды, быў бачны здалёк.

На магіле ў Максіма стаяла шэрая ад часу стэла, выраблена з пясчаніку. Мы збольшага прыбралі магілку, зграблі лісце, паадкалупвалі з помніка зялёныя бляшкі лішаёў. Стэла была невялікай, але выразнай. Як пісаў Максім Багдановіч пра сябе пры жыцці: «Я непрыкметны, шэры чалавек», вось такі яму і помнік паставілі. Напачатку помнік быў, мабыць, светла-шэрага ці жаўтаватага колеру, а потым ён набыў шэры цёмны колер зямлі. Нас уразіла гэтая прастата і беднасць, гэты мінімалізм, убогасць месца пахавання беларускага генія. Максім Багдановіч быў для нас паэтам нумар адзін. І ён жа памёр, страшэнна таленавіты, будучы не на багата старэйшым за нас. Скрозь на могілках стаялі цёмна-зялёныя стромкія кіпарысы. Яны былі як сімвалы жалобы, як вечныя ахоўнікі на гэтым могілках. Едрусь напісаў пра нашыя пошукі зямнога прыстанішча Максіма верш:

*Не да магіл Бірукова і Чэхавых,*
*а да тваёй*
*сіратліва-сціплай*
*прыехалі мы сюды...*
*Прывіталіся.*
*Беларускіх рук сляды —*
*кветкі з лета*
*захаваліся...*

**(На могілках у Ялце)**

Пасля паездкі ў Крым Едрусь напісаў яшчэ некалькі вершаў пра нашую вандроўку, пра Максіма Багдановіча, але яны не ўвайшлі ні ў першы ягоны зборнік, ні ў нядаўна выдадзены том выбраных вершаў «Святая ноч». Мабыць, ён палічыў іх няспелымі і недасканалымі. Але яшчэ хоць адзін з іх я працытую:

***М.Багдановічу***

***Невыплаканая скрипка***
***В красный легла футляр.***
***А.Вознесенский***

*Крымскае неба навісла*
*Просінню на кіпарысы,*
*Шум мора.*
*Яшчэ ўчора*
*Алеі адчувалі яго крокі.*
*Воблакі*
*Плылі над яго галавой.*
*Імгненне стой.*
*Свой лёс знаў сам.*
*Нам — гора.*
*Яшчэ ўчора —*
*жывы пясняр...*
*Сёння:*
*Нявыплаканая скрыпка*
*У чырвоны лягла футляр.*

## Вядро халоднай вады

Вось так мы разам вучыліся, адпачывалі, рэпетавалі і зрэдку выступалі 82-гі і 83-ці гады. Быў у нас і выступ ва ўніверсітэцкай зале. Гэта быў даволі вялікі зборны канцэрт. Мы мелі адыграць там тры кампазіцыі. Адна справа — грымець і гарлаць у сваёй каморы, іншая — на сцэне паказаць вынік нашых рэпетыцыяў.

Зградлі мы, як на маю памяць, слабенька. Самі былі вінаватымі, бо дагэтуль ні разу не рэпетавалі ў вялікай зале. Да ўсяго, за пультам, які рэгуляваў зладжанасць і якасць гучання нашых электрагітараў і мікрафонаў, сядзеў хлопец, які ніколі з намі раней не працаваў і быў зусім не зацікаўлены ў нашым выступе...

І вось мы граем, спяваем, мы з Едрусем выйшлі ў нашых кашулях-вышыванках, а я з жахам не чую гуку гітараў у вялікай прасторнай зале, мне здаецца, што мы вывяргаем нейкую какафонію нязвязаных гукаў. Я азіраюся на хлапцоў і бачу, што і яны разгубленыя і прыгаломшаныя, але ж не спыніцца, нічога не паправіць і не пачаць наноў. У мяне было адчуванне поўнага правалу. Галоўным жаданнем было дайграць хоць бы як і вылецець са сцэны. І толькі на апошняй, трэцяй кампазіцыі мы неяк пачулі і інструменты, і сябе, крыху супакоіліся, і яна атрымалася больш-менш зладжанай...

Гэты выступ быў як вядро халоднай вады на нашы галовы. Мы ўжо мелі шэсць-сем уласных кампазіцыяў, кожны з нас падцягнуўся ў гранні на сваіх інструментах, няблага гучалі і рытм-гітара, і бас-гітара, і бубны, а вось захапляюча шчымлівай сола-гітары, якая б забірала на сябе ўвагу, вяла, дзе патрэбна, мелодыю, разбаўляла, дзе неабходна, варыяцыямі і прыгожымі мастацкімі ўстаўкамі асноўны рытм і канву кампазіцыяў, ужо не кажучы пра імправізацыі, гэтага ў нас не было, і нават не вымалёўвалася.

Мы вырашылі падмацаваць адсутнасць добрай сола-гітары электраарганам і павесілі ў навучальным корпусе на дошцы аб'яваў абвестку, дзе запрашалі клавішніка з музычнай адукацыяй далучыцца да «Баскаў». Абвестка правісела некалькі дзён, ахвочага не знайшлося. На свабодзе, перад пасадкаю, я перабіраў свае старыя паперы і сярод іх знайшоў гэтую абвестку, адную з нямногіх памятак, якая захавалася пра існаванне «Баскаў». Ляжыць у мяне яшчэ камплект струнаў для бас-гітары, падараваны мне на дзень нараджэння «Баскамі» з віншавальным подпісам ды пару аматарскіх здымкаў, на якіх мы стаім з гітарамі на ганку клуба ў Стаўбуне, хіба што і ўсё.

Новага музыку-арганіста мы не знайшлі, і гэтым пазначыўся надыход творчага крызісу. Тым не менш, мы працягвалі граць і рэпетаваць у старым складзе.



Вяселле Едруся Акуліна. Гомель, 4 лютага 1984 г.

## Яшчэ адна Наталля. Пачатак жыцця

На пятым курсе Едрусь ажаніўся. За жонку ён узяў сваю аднакласніцу, дзяўчыну з ягонай вёскі, якая таксама вучылася на нашым факультэце, але на рускім аддзяленні, Наталлю Карнеенку. Некаторыя лекцыі чыталіся для ўсіх філолагаў, «рускіх» і «беларусаў», таму мы часта сядзелі ў вялікіх аўдыторыях усім беларуска-рускім кагалам. Наталля была адной з самых прыгожых філалагіняў і першым каханнем Едруся. У іх было каханне яшчэ ў школе, юнацкае захапленне, ці, больш дакладна, хутчэй гэта была ўзаемная сімпатыя і зацікаўленасць адно ў адным. Тут, ва ўніверсітэце, каханне між імі ўспыхнула з новай сілай і горача запалала. На пятым курсе Едрусь паведаміў, што яны бяруць шлюб. А ён жа быў маім лепшым сябрам! У нечым яны былі вельмі рознымі, а ў нечым вельмі дапаўняльнымі. Бо прайсці болей за трыццаць гадоў разам па жыцці — гэта не ў лаўку па хлеб схадзіць.

На іхнім вяселлі я быў у Едруся за дружку, за шафера. Інакш і быць не магло. Вяселле было студэнцкім. Мы выкупілі нявесту ў яе сяброўак у інтэрнаце, сыпалі дробязь і металічныя рублі на падлогу ў студэнцкім пакоі. Жонка Едруся Наталля, дарэчы, была на тым паспяховым выступе «Баскаў» у Вялікіх Нямках. Яна прыходзіла на танцы са сваімі сяброўкамі. Можа, слава гэтага выступу, якая ззяла тады над нашымі галовамі ў Нямках, а асабліва над галавой Едруся, неяк і паспрыяла іхняму шлюбу. А чым мы маглі яшчэ прывабіць сваіх дзяўчын апроч сумнеўных творчых перспектываў ды вось такой, хуткабежнай музычнай славы, якая развейвалася як туман.

Урэшце, гэта быў толькі пачатак, пачатак нашага жыцця, пачатак нашых здольнасцяў, якія — мы чацвёра верылі — яшчэ вырастуць і ўвасобяцца, і зайграюць яркім святлом на ўсю Беларусь. Мы самаўпэўнена верылі, што мы будзем адны з арыгінальнейшых і таленавіцейшых. Мы былі безаглядна пераканаsuccessfulныя, што ўсё найлепшае ў нашым жыцці яшчэ наперадзе. Мы імкнуліся да неакрэслена высокіх мэтаў, не зусім разумеючы, не задумваючыся над тым, што шлях да гэтай мэты і ёсць самім нашым жыццём.

Нябачныя палескія чараўніцы-паркі сучылі з сувою жыцця ніткі нашых лёсаў. Выглядала так, што пасля заканчэння вучобы «Баскі» мусілі раз'ехацца ў розныя канцы Гомельшчыны. Мы пралічвалі ўсе магчымыя варыянты для захавання нашага гурта, і нічога не атрымлівалася. Бо тады трэба было б разабрацца з размеркаваннем. Трэба было прасіцца і знайсці працу ў Гомелі. Трэба было ўсім нам чатыром адкасіць ад войска. І рабіць усё гэта адначасова. Гэта быў толькі відавочны парог праблемаў, створаных тагачасным савецкім жыццём. Пераадоленне іх зусім не забяспечвала поспех у творчым лёсе «Баскаў». У нас не было ані сувязяў, ані блату, ані ўплывовых бацькоў. Таму з «Баскамі» даводзілася развітацца.

Надышло размеркаванне. Мы раз'ехаліся па розных раёнах. Я — у самы далёкі, Лельчыцкі, Едрусь — у Рэчыцкі, Толік Кавалёў — у Жлобінскі, Сяргей Скачынскі — у Веткаўскі. Быў 1984-ы год. Усе нашы раёны, апроч Жлобінскага, неўзабаве былі засыпаныя радыяцыяй. Толіку Кавалёву, мабыць, па «міліцэйскім блаце», ягоны бацька, маёр міліцыі, дапамог у службе ў войску ў менскім міліцэйскім палку, і ён два месяцы праслужыў у чарнобыльскай зоне, штосьці ахоўваў менавіта тады, калі там бушавала радыяцыя. Затым ён вярнуўся ў сваю школу на Жлобіншчыне і працуе там вось ужо амаль трыццаць гадоў. У яго ёсць свая ўдарная ўстаноўка, але я не ведаю, ці грае ён зараз калі-небудзь.

Сяргей Скачынскі ўсё жыццё жыве ў адным з найбольш радыяцыйных раёнаў — Веткаўскім, дзе большасць вёсак пераселеныя, а хаты разбураныя і закапаныя ў ямах.

Я ж, адпрацаваўшы ў вясковай школе першую чвэрць, паступіў у аспірантуру Інстытута літаратуры Акадэміі навук і пераехаў жыць у Менск. Неўзабаве туды завочна паступіў і Едрусь. Затым, пасля аспірантуры, я стаў дырэктарам Літаратурнага музею Максіма Багдановіча. Шэсць гадоў адпрацаваўшы ў вёсцы, у Менск пераехаў і Едрусь. Затым мы разам адпрацавалі ў музеі восем гадоў.

***

Так скончылася невялікая гісторыя беларускамоўнага гурта «Баскі». Непрацяглая і някідкая, яна, тым не менш, моцна паўплывала на нашы асабістыя лёсы. Едрусь Акулін — адзіны з нас, хто не закінуў музыку. Ён працягвае спяваць сам і выдаў некалькі песенных бардаўскіх альбомаў. З песняю Едрусь ідзе па жыцці, і ягоныя песні дапаўняюць ягоную паэтычную творчасць. Едрусь багата выступае: і ў школьных класах, і ў студэнцкіх залах, а раней на мітынгах, дзе яго слухаюць сотні і тысячы людзей. Ён змушае іхнія душы адгукацца на ягоныя лірычныя песні пра каханне і пра Беларусь.

Разам з жыццём «Баскаў» скончылася мая музычная «кар'ера». Пасля «Баскаў» я ні разу не ўзяў у рукі бас-гітару. З'явіліся іншыя беларускія праекты, якімі я больш-менш паспяхова займаюся ўсё жыццё. Але «Баскі» нікуды не сышлі. У маім жыцці і жыцці маіх сябрукоў ад іх назаўсёды засталося штосьці важнае ды істотнае. Так што пакуль будзем жыць мы — будуць жыць і «Баскі». Мы проста не граем. Але «Баскі» — FOREVER!

**Бабруйск, калонія №2**




Фота www.tagesspiegel.de

**У 1990-м «Дынама» стала называцца «Берлін». Аднак на якасці гульні новая назва не адлюстравалася. Спачатку «Берлін» не здолеў увайсці нават у другі эшалон Бундэслігі, а пасля страціў статус прафесійнага клубу**

# Любімы клуб Штазі

Алег НОВІКАЎ

**У студзені спаўняецца 50 гадоў з даты заснавання аднаго з самых незвычайных клубаў у гісторыі — берлінскага «Дынама». Яго куратарам было сумна вядомае Міністэрства дзяржаўнай бяспекі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі (ГДР), або скарочана Штазі.**

Ужо саму гісторыю нараджэння «Дынама» можна лічыць узорам дырэктыўнай мадэлі кіравання спортам. Неяк у 1953 годзе на пасяджэнні функцыянераў Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі абмяркоўвалася пытанне, як узняць прывабнасць Усходняга сектару Берліну, які кантралявала Масква і яе саюзнікі. Праблему пастанавілі вырашаць у тым ліку за кошт спорту, а менавіта — сфармаваць ва Усходнім Берліне моцную футбольную каманду.

У Берлін прывезлі на той час самы моцны клуб у ГДР — «Дынама» з Дрэздэну, якому імкліва давялося змяніць прапіску. Спачатку клуб гуляў пад шыльдай «Дынама-Цэнтр», пакуль у 1966-м не было вырашана сфармаваць асобны калектыў «Дынама».

Адначасова ў клуба з'явілася ведамства-патрон — Міністэрства дзяржаўнай бяспекі. Кіраваў Штазі Эрых Мільке, які вырашыў паспрабаваць сябе таксама ў ролі футбольнага менеджэра. На гэты час паміж Заходнім і Усходнім Берлінам ужо праходзіла сцяна, і пытанне наяўнасці ў сталіцы ГДР моцнага футбольнага клуба, быццам, не стаяла так катэгарычна. Аднак Мільке прыдумаў для «Дынама» новую канцэпцыю. Клуб павінен быў стаць не проста моцным берлінскім клубам, а візітоўкай усяго ўсходненямецкага футболу.

Кіраўнік Штазі не шкадаваў сродкаў на трэніровачныя цэнтры, ганарары для дынамаўцаў і асабіста лабіраваў трансферы ў клуб лепшых футбалістаў з іншых камандаў. Штотыдзень Мільке наведваў каманду, і таксама штотыдзень трэнер «Дынама» павіненна было дакладаць яму пра сітуацыю ў клубе.

Карыстаючыся такой салíднай падтрымкай, «Штазі клуб» (так «Дынама» часта называлі ў народзе) хутка стаў грандам усходненямецкага футболу і фактычна заставаўся ім да падзення Берлінскай сцяны. Да часу, калі ГДР закончыла існаванне, «Дынама» дзесяць разоў паспела стаць уладальнікам чэмпіёнскага тытулу. Нават другое места ў чэмпіянаце ГДР разглядалася Мільке як правал, следствам чаго, як, напрыклад, у 1982 годзе, была адстаўка ўсяго трэнерскага складу.



**«Дынама Берлін», фінал Кубка ГДР. 1959 год**

Асаблівая ўвага надавалася гульням з клубамі з ФРГ, якія ў вачах кіраўнікоў ГДР выглядалі як спаборніцтвы сістэмаў. Білеты на такія матчы не прадаваліся, а распаўсюджваліся выключна сярод супрацоўнікаў Мінбяспекі. У апараце Штазі баяліся, што звычайныя бюргеры могуць выказваць на трыбунах падтрымку гульцам з варожага Захаду. Нягледзячы на амбіцыі Мільке, асаблівых поспехаў на міжнароднай арэне «Дынама» не дэманстравала. Хіба што можна адзначыць сенсацыйную перамогу ў 1979 годзе над англійскім «Нотынгем Форэст» — тагачасным уладальнікам Кубку чэмпіёнаў.

Самае дзіўнае, што «Дынама» практычна не мела тарсіды. Нават берлінцы лічылі, што «Дынама» — штучны клуб. Не надавала яму папулярнасці і сувязь са Штазі. Асабліва моцна футбольныя аматары ГДР пачалі ненавідзець «Дынама» пасля скандальнага матчу ў 1986 годзе з лейпцыгскім «Лакаматывам». Суддзя, які яўна сімпатызаваў «Дынама», прызначыў вельмі спрэчнае пенальці ў вароты каманды з Лейпцыгу, у выніку чаго «Лакаматыў» прайграў.

Пасля аб'яднання Германіі Штазі ліквідавалі, і, як следства, «Дынама» згубіла спонсара. Каб неяк пазбавіцца кампраметуючага іміджу былога клубу Мільке, прынялі рашэнне пра змену назвы каманды. У 1990 годзе «Дынама» стала называцца «Берлін». Аднак на якасці гульні новая назва не адлюстравалася. Спачатку «Берлін» не здолеў увайсці нават у другі эшалон Бундэслігі, а з часам увогуле страціў статус прафесійнага клубу.

Парадаксальна, аднак чым больш каманда, якая, дарэчы, у 1999 годзе вярнула сабе старое імя, прайгравала, тым больш расла колькасць яе заўзятараў. Гэты феномен тлумачыцца расчараваннем часткі ўсходніх немцаў вынікамі аб'яднання з ФРГ, што таксама прывяло да крызісу былой вытворчай структуры на Усходзе. Адсюль рост настальгіі па часах ГДР, сімвалам якой было ў тым ліку «Дынама». Пры гэтым усходненямецкая ідэнтычнасць выражалася вельмі агрэсіўна. У 1990-я гады дынамаўскія хуліганы лічыліся самымі небяспечнымі ва ўсёй ФРГ.

Так ці інакш, менавіта дзякуючы фанатам клуб канчаткова не згінуў пасля таго, як у 2001 годзе стаў банкрутам і не здолеў заплаціць унёсак, патрэбны для ўдзелу ў чэмпіянаце. Фанаты ўмудрыліся неяк вырataваць любімую каманду. З часам частка тых жа фанатаў, нягледзячы на ідэалізацыю ГДР, зрабіла кар'еру і знайшла сябе ў бізнесе. У выніку ў клубу зноў з'явіліся спонсары, магчымасць запрашаць добрых трэнераў, праводзіць селекцыйную працу.

Сёння «Дынама» дастаткова паспяхова гуляе ў адной з рэгіянальных ліг. Цяжка казаць пра будучыню каманды, аднак у фокусе ўвагі клуб будзе заўсёды. У тым ліку таму, што толькі два клубы ў ФРГ — «Дынама» і славутая мюнхенская «Баварыя» — маюць на футболках вывы трох зорак, знак таго, што дадзеная каманда дзесяць разоў была чэмпіёнам.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

На авіябазу ў Бабруйску ў Беларусі, таксама непадалёку ад нашай мяжы, перакінулі расійскія ваенна-транспартныя самалёты, знішчальнікі СУ-27-МІ і баявыя верталёты. Гэта нягледзячы на запэўніванні прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, што ён ніколі не дазволіць агрэсіі з беларускай зямлі. Цяпер — не вельмі верыцца.

**«Газета» (Украіна)**

Вядома, пытанне павышэння статусу або нават аўтакефаліі Беларускай Царквы мае права на існаванне, і, як мы бачылі, на адным з леташніх сходаў Мінскай мітраполіі дадзенае пытанне было тэмай для разгляду беларуская духавенства. Аднак гэта ўнутраная справа Царквы. Умяшанне ў гэтую праблему прадстаўнікоў улады не можа прывесці ні да чаго добрага і заўсёды будзе нагадваць паводзіны слана ў краме з посудам. Прыкладаў таму мноства. Так было ў Балгарыі, дзе ўлады ў свой час учынілі раскол, так адбываецца ў сучаснай Македоніі, так ёсць і ва Украіне, дзе чыноўнікі таксама лічаць, што Царква павінна адпавядаць іх палітычным амбіцыям. Дзіўна, што гэтага не разумее Аляксандр Лукашэнка.

**«Русская линия» (Расія)**

Гэты штогадовы турнір аматараў хакея, у якім заўсёды ўдзельнічае каманда Лукашэнкі ў складзе спартсменаў, чыноўнікаў і бізнесменаў, праводзіцца ў пачатку студзеня ўжо 12 гадоў. Ці варта казаць, што дзевяць разоў у ім перамагала каманда Лукашэнкі, а тры разы – каманда Расіі? Расіянам Аляксандр Рыгоравіч дазваляе выйграць у строга пэўныя гады: 2007, 2011, 2015. Гэта заўсёды пасля прэзідэнцкіх выбараў, якія не прызнаюцца Захадам, а ў Лукашэнкі рэзка абвастраюцца адносіны з Еўропай. І тады ён кідаецца залагоджваць Расію — апошняга спонсара краіны — усімі метадамі, уключаючы залаты медаль цацачнага турніру.

**«Новая газета» (Расія)**

Беларусь у гэтым годзе будзе паступова ўмацоўваць свае эканамічныя сувязі з Захадам, захоўваючы пры гэтым ваенны і стратэгічны альянс з Расіяй. Беларускі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка будзе імкнуцца не дапусціць адкрыцця расійскай авіябазы ў сваёй краіне, каб пазбегнуць росту напружанасці паміж Мінскам і Захадам, але яго пазіцыя можа змяніцца, калі NATO стане нарошчваць сваю ваенную прысутнасць у суседняй Польшчы і прыбалтыйскіх дзяржавах.

**«Укррудпром» (Украіна)**

Адзін знаёмы нядаўна сказаў займальную фразу: такое ўражанне, што ёсць два Лукашэнкі — адзін шмат кажа, другі — маўчыць і робіць. Гэта ў поўнай меры выявілася ў час і пасля Майдана. Многія чакалі калі не «марш-кідка беларускіх войск на Кіеў», то па меншай меры гандлёвай блакады. Але, як кажуць ва Украіне, «не так сталося, як гадалося»: Беларусь заняла зусім іншую пазіцыю ў адносінах да паўднёвай суседкі. Паступова пачала аднаўляць сапсаваныя адносіны з Захадам і задумала рэформы.

**ТСН (Украіна)**

Незалежныя эканамісты, у цэлым падтрымліваючы ідэю роўных умоў гаспадарання для ўсіх прадстаўнікоў бізнесу — буйных і дробных, усё ж адзначаюць, што момант для выкарання «чаўнакоў» улада абрала не самы ўдалы. У краіне эканамічны крызіс, прамысловыя гіганты вымушаныя звальняць людзей. З'яўленне ўчорашніх ІП толькі ўзмоцніць ціск на на рынку працы.

**«Независимая газета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТАДЖЫКІСТАН. Жонка таксама лідар нацыі!

У афіцыйнай прэсе Таджыкістана з'явіліся публікацыі з заклікамі надаць Азізамо Рахмон, жонцы прэзідэнта Эмамалі Рахмона, тытул «лідар жанчын-мусульманак Таджыкістана». З улікам таго, што ў снежні Рахмона рашэннем парламента краіны прызначылі «лідарам нацыі», прапанова падаецца ў некаторым плане лагічнай. Увогуле, ініцыятары ідэі аргументуюць сваю прапанову тым, што Азізамо здзейсніла ў свой час разам з мужам малітву ўнутры Каабы — мусульманскай святыні Меккі. Калі верыць афіцыёзу, раней ніводная таджыкская жанчына такога не рабіла, таму гэты ўчынак мае вялікую сімвалічную каштоўнасць. Малітва ў Каабе «выклікае велізарную радасць і ўпэўненасць у душы мільёнаў мусульман у свеце, і таджыкаў асабліва», — пішуць таджыкскія афіцыйныя СМІ. Яны таксама сцвярджаюць, што хадж Рахмона з жонкай у Мекку дакладна падарваў пазіцыі таджыкскіх ісламістаў, якія малююць Рахмона заўзятым камуністам-атэістам.

**Паводле таджыкскай прэсы**




### УКРАІНА. Сепаратыстаў трэба падкупіць

Незвычайную формулу вырашэнне праблемы сепаратызму прапанаваў украінскай уладзе апальны расійскі палітык Ілля Панамароў. Панамароў, дарэчы, быў адзіным дэпутатам Дзярждумы, які прагаласаваў супраць анексіі Крыму, што каштавала яму вельмі дорага: супраць палітыка былі ўзбуджаныя крымінальныя справы за нейкія эканамічныя злачынствы, у выніку чаго Ілля быў вымушаны эміграваць. На мінулым тыдні ў Кіеве ён параіў украінцам урэгуляваць канфлікт на Данбасе гэтак жа, як Расія ўрэгулявала канфлікт у Чачні, а менавіта перакупіць кантроль над рэгіянальнай элітай. Дэпутат перакананы: «Каб яны сышлі ад Крамля і вярнуліся ва ўкраінскую арбіту, ім трэба нешта прапанаваць. Вазьміце, да прыкладу, наш вопыт у Расіі, тое, як урэгулявалі канфлікт у Чачні — мы перакупілі кантроль над рэгіянальнай элітай. Украіне трэба рабіць тое ж самае, інакш нічога не атрымаецца». Украінскі палітыкум асцярожна паставіўся да прапановы Панамарова, у тым ліку таму, што некаторыя палітолагі баяцца вяртання на ўкраінскія выбары амаль 2 мільёнаў выбаршчыкаў, якія цяпер жывуць у сепаратысцкіх рэспубліках Данбасу, што можа падарваць цяперашні больш-менш праеўрапейскі кансенсус ва Украіне.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ІСЛАНДЫЯ. Краіна атэістаў

Калі верыць сацыялогіі, ісландцы сталі самай атэістычнай нацыяй у свеце. Паводле вынікаў апошніх сацыялагічных апытанняў, больш за палову жыхароў краіны (53 працэнты) абыякава ставяцца да рэлігіі і перш за ўсё да хрысціянскай веры, якая з'яўляецца традыцыйнай рэлігіяй ісландцаў. Найбольш шакуюць вынікі апытанняў сярод маладых ісландцаў. 93,9 працэнта тых, каму менш за 25 гадоў, не вераць у біблейскую версію стварэння свету, а 6,1 працэнта не маюць канкрэтнай пазіцыі. Такім чынам, колькасць хрысціянскіх вернікаў сярод ісландскай моладзі практычна схіляецца да нулю. Праўда, у катэгорыі тых, каму больш за 55 гадоў, амаль 80 працэнтаў лічаць сябе хрысціянамі. Самае цікавае, што такая нізкая колькасць вернікаў зафіксаваная ў краіне, дзе паводле канстытуцыі царква — у ісландскім выпадку Евангелісцкая пратэстанцкая — лічыцца дзяржаўнай.

**Паводле ісландскай прэсы**

### ФРГ. Прыйшоў час дэкамунізацыі

З незвычайнай прапановай выступіла секцыя арганізацыі «Малады саюз» у нямецкай зямлі Мекленбург — Пярэдняя Памеранія. «Малады саюз», які па сутнасці ёсць структурай пры ўрадавай партыі «Хрысціянска-дэмакратычны саюз» (CDU), прапануе перанесці ў ФРГ вопыт украінскіх уладаў і дэкамунізаваць тапаніміку рэгіёна, які калісьці ўваходзіў у склад Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі (ГДР). Справа ў тым, што пасля далучэння гэтага краю да ФРГ назвы шматлікіх вуліц дасюль засталіся звязаным з часамі ГДР. Хапае тут і помнікаў розным камуністычным лідарам. Сацыял-дэмакратычнае кіраўніцтва зямлі дастаткова крытычна ўспрыняло ідэю. На іх думку, па-першае, гэта праблема мясцовага самакіравання, па-другое, не ў традыцыях нямецкага народу займацца разбурэннем розных мемарыялаў. І, нарэшце, у часы крызісу лепш накіраваць бюджэтныя грошы на нешта больш важнае. Увогуле, гэта ўжо другі правал планаў «Маладога саюза» ў галіне палітыкі памяці. У 2014 годзе арганізацыя заклікала Ангелу Меркель пабудаваць помнік ахвярам ГДР, аднак урад таксама праігнараваў ідэю.

**Паводле нямецкай прэсы**




Фота www.novosti-dny.com

# Што чакаць ад Цай?

Алег НОВІКАЎ

**На Тайвані ўпершыню да ўлады прыйшлі прыхільнікі канцэпцыі існавання асобнай ад кітайскай тайваньскай нацыі. У Пекіне, які лічыць востраў часткай Кітаю, не на жарт абураныя.**

Як вядома, дэ-юрэ дзяржавы Тайвань не існуе. Афіцыйна дзяржава, што месціцца на востраве Тайвань, горда называецца Кітайская Рэспубліка (КР), або таксама «Вольная зона Кітайскай Рэспублікі». КР была заснаваная ў 1911 годзе і кантралявала значную частку Кітая да перамогі камуністаў, якія абвясцілі Кітайскую Народную Рэспубліку (КНР). Паколькі канстытуцыйна Кітайская Рэспубліка не адмовілася ад сваіх правоў на мацерыковы Кітай, атрымліваецца, што фармальна суверэнітэт ураду ў Тайбэі распаўсюджваецца на ўсю цяперашнюю КНР плюс на частку Таджыкістана, Індыі, Расіі, Афганістана і ўсю Манголію, якія лічыліся бацькамі-заснавальнікамі КР гістарычнымі кітайскімі землямі.

Такая кур'ёзная сітуацыя выклікана гістарычнымі абставінамі. У 1949 годзе на Тайвань збег нацыянальны ўрад КР пад кіраўніцтвам Чан Кайшы, кіраўніка партыі Гаміндан. З дапамогай ЗША гаміндан аўцы ўтрымалі тайваньскі плацдарм, аднак паступова ўзнікла новая, цяпер ужо ўнутраная пагроза — тутэйшыя пачалі лічыць сябе не кітайцамі, а тайванцамі. Часткова, праўда, адказнасць за такі феномен нясе партыя Гаміндан, чый рэжым да канца 1970-х гадоў быў вельмі аўтарытарным.

Так ці інакш, на востраве паступова пачаў фармавацца лагер незалежнікаў, лідары якога прапануюць адмовіцца ад канцэпту рэстаўрацыі Кітайскай Рэспублікі, пакінуць КНР манапольнае права лічыць сябе кітайскай дзяржавай і будаваць тайваньскую ідэнтычнасць. На цяперашні дзень распрацаваная цэлая гістарычная і прававая школа, якая даводзіць ідэю пра тое, што Тайвань — асобная ад Кітаю краіна, дзе жыве асобная нацыя. Важным момантам у аргументах незалежнікаў ёсць той факт, што востраў не быў часткай Кітайскай Рэспублікі. На момант яе абвяшчэння ў 1911 годзе Тайвань знаходзіўся пад японскім пратэктаратам. Пасля разгрому Японіі ў 1945 годзе на востраве гаспадарылі амерыканцы, якія і далі прытулак адміністрацыі Чан Кайшы.

Незалежніцкі рух на Тайвані не падабаецца не толькі актывістам Гаміндану. Незалежнасць Тайваня супярэчыць інтарэсам Пекіна, які праводзіць курс на рэінтыграцыю Кітая. Тайваньскае пытанне ў Пекіне спрабуюць вырашыць па формуле «дзве сістэмы — адна дзяржава», якая была выкарыстана падчас далучэння Ганконгу і Макаа. Таксама акцэнт робіцца на тым, што на Тайвані ёсць свае падобныя на аўстралійцаў абарыгены, якія жылі тут да пачатку кітайскай каланізацыі і жывуць дасюль у колькасці паўмільёна чалавек. Гэта дае права ідэолагам КНР разглядаць насельніцтва Тайваню не як тайванцаў, а як частку кітайскай нацыі.

Цяпер, напэўна, варта чакаць рэанімацыі старых гістарычных спрэчак, паколькі 16 студзеня па выніках прэзідэнцкіх выбараў атрымала пераканаўчую перамогу Цай Інвэнь, лідар Дэмакратычнай прагрэсіўнай партыі (DPP), якая з'яўляецца галоўным суб'ектам кааліцыі незалежніцкіх палітычных праектаў.

У прынцыпе, магчыма, усё і абыдзецца. Па-першае, на гэты раз DPP нічога радыкальнага не абяцала. У выбарчай праграме кандыдат абяцала хіба падтрымліваць ідэнтычнасць тайваньскай нацыі, захоўваючы юрыдычны статус-кво востраву. Гэта тлумачаць не вельмі пазітыўнай эканамічнай кан'юнктурай на Тайвані, які эканамічна моцна залежыць ад кітайскага рынку.

Акрамя таго, гэта ўжо другі прыход DPP ва ўладу. Папярэдні раз DPP узначальвала ўрад у 2000–2008 гадах, паклаўшы, дарэчы, канец дамінаванню партыі Гаміндан у дзяржаўных тайваньскіх структурах. Хаця тады ў рамках выбарчай кампаніі спікеры DPP абяцалі пасля перамогі дэклараваць незалежнасць Тайваню, у выніку ўсё абмежавалася парламенцкай рэзалюцыяй ад 30 верасня 2007 года. Тэкст рэзалюцыі заклікаў да стварэння новай рэдакцыі Канстытуцыі, у якой назва «Тайвань» будзе ўжывацца без прывязкі да тэрміну Кітайская Рэспубліка.

Але ёсць і іншыя прагнозы. Цяпер незалежнікі ў лепшай сітуацыі, чым сем гадоў таму, паколькі ў 2000–2008 гадах іх урад не абапіраўся на дэпутацкую большасць. Зараз DPP з саюзнікамі кантралюе як заканадаўчую (74 з 113 мандатаў), так і выканаўчую (урад і прэзідэнт) галіны ўлады. Па-другое, як піша прэса, Пекін проста абавязаны нешта рабіць, каб не дапусціць далейшай экспансіі сепаратысцкай ідэалогіі. Ацэнка вынікаў тайваньскіх выбараў у прэсе КНР сапраўды вельмі эмацыйная. «Тайвань павінен адмовіцца ад сваіх «галюцынацый» наконт незалежнасці», — заявілі каментатары кітайскага тэлебачання. Тайваньскі дэпартамент кітайскага ўраду паабяцаў абараніць суверэнітэт Кітаю ў выпадку нейкіх рухаў новай адміністрацыі ў бок абвяшчэння незалежнасці. Такая агрэсіўная рыторыка можа справакаваць тайваньскі ўрад на рашучыя ўчынкі.

Нарэшце, прыход да ўлады адбываецца на фоне росту рэгіянальнай напружанасці. Кітай патрабуе, каб частка акваторыі ў Паўднёвым кітайскім моры была прызнаная яго суверэннымі водамі, што не падабаецца ЗША і іх саюзнікам. Летась ледзь-ледзь не адбыўся канфлікт паміж кітайскай флатыліяй і амерыканскім дрэдноўтам. Тайваньскі фактар дакладна будзе вельмі важным у кітайскай стратэгіі ЗША. Таму некаторыя выданні лічаць, што тэма незалежнасці будзе заставацца складнікам прамоў Цай Інвэнь, якая ўступіць у абавязкі прэзідэнта 16 мая.

# Украіна грыпуе

**Украіна зноў стала ахвярай эпідэміі грыпу, ад якога па стане на 19 студзеня ўжо памёр 51 чалавек. Пра маштабы эпідэміі і яе сацыяльна-палітычныя наступствы журналісту НЧ Алегу Новікаву распавядае кіеўскі сацыёлаг Сафія Радава.**

***— Уздымаючы тэму эпідэміі грыпу ва Украіне, нельга не ўзгадаць пра эпідэмію 2009 года, якая выклікала папросту татальную паніку. Называліся фантастычныя лічбы — 400 лятальных выпадкаў. У выніку тэма грыпу знікла гэтак жа хутка, як і з'явілася. Ці ёсць нейкая агульная думка, што гэта было?***

— Лічыцца, што эпідэмія мела месца, аднак істэрыка вакол яе была маніпулятыўнай. Яе наўмысна запусціла тагачасны прэм'ер Юлія Цімашэнка, якая выкарыстала эпідэмію дзеля самапіяру перад выбарамі прэзідэнта, прызначанымі на студзень 2010-га, і для таго, каб адцягнуць увагу ад наступстваў аслаблення грыўні. Юлія ў прамым эфіры сустракала ў кіеўскім аэрапорце скрыні з імпартнымі лекамі, прабодзіла спецыяльныя пасяджэнні, будучы ў цэнтры ўвагі ўсёй краіны. Кампанію Цімашэнка згарнула пасля таго, як прадстаўнік адміністрацыі Юшчанкі прапанаваў перанос выбараў прэзідэнта Украіны са студзеня на май з-за магчымага ўвядзення надзвычайнага становішча ў сувязі з грыпам.

***— Ці ёсць зараз паніка, падобная на тую, якая мела месца ў 2009 годзе?***

— Панікі няма, хаця грып ёсць, і наступствы эпідэміі можна сустрэць на кожным кроку. У школах працягнулі канікулы, СМІ інфармуюць пра рост смяротнасці. У сувязі з эпідэміяй у аптэках назіраецца рост коштаў на лекі. Аднак сітуацыю нельга параўноўваць з 2009-м. Гэта звязана з тым, што СМІ большменш фільтруюць панічныя заявы, не выносяць інфармацыю пра смерць ад грыпу ў анонсы навінаў. Сем гадоў таму яны, наадварот, ахвотна распальвалі істэрыку.

Але праблемы ў тым, што кошты на лекі моцна выраслі, і тыя ж пенсіянеры і не вельмі заможныя людзі не могуць сабе дазволіць якасныя медыкаменты. На днях зноў пачало ліхаманіць грыўню, што таксама негатыўна ўплывае на цэннікі.

***— Украінскае міністэрства аховы здароўя вядзе сябе вельмі дзіўна, доўгі час упарта адмаўляючыся прызнаваць факт эпідэміі. Чым выклікана такая пазіцыя?***

— Міністр аховы здароўя Аляксандр Квіташвілі, сапраўды, адмаўляў факт эпідэміі, паколькі любы негатыў аб'ектыўна супраць яго. Магчыма, на яго пазіцыю ўплываюць унутраныя разборкі ў ведамстве, канкурэнцыя за крэслы. Напрыклад, у парламенцкім камітэце па праблемах здароўя, наадварот, моцна згушчаюць фарбы: сцвярджаюць, што з-за пасіўнасці Квіташвілі ўжо шэсць працэнтаў украінцаў пакутуюць на грып. Не выключана, што мае месца барацьба за грошы, якія круцяцца ў гэтым сектары. Нефармальная частка эканомікі аховы здароўя ва Украіне складае каля 7 мільярдаў долараў на год.

***— У расійскай прэсе вельмі шмат страшылак пра ўкраінскі грып. Паведамляюць, што гэта нават не новы штам грыпу, а нейкая форма чумы. Ці маюць падобныя ўкідванні нейкі рэзананс у соцыуме?***

— Інфармацыя пра чуму — яшчэ не кульмінацыя фантазіі. На інтэрнэт-рэсурсах гуляе версія пра тое, што вірус грыпу — гэта тайная зброя, якая была распрацаваная ў лабараторыях ЦРУ з мэтай знішчыць рускамоўнае насельніцтва Адэсы і Харкава, захаваўшы пры гэтым інфраструктуру. Аднак да такіх плётак вялікага інтарэсу няма. Тым больш, ёсць іншыя чуткі. Напрыклад, у Вінніцкай вобласці — рэгіёне-лідары па колькасці хворых на грып, папулярныя чуткі пра тое, што эпідэмію грыпу нам закінулі ў ампулах спецыяльныя дыверсійныя групы з Расіі. А чаму ў Вінніцкую вобласць? Таму што гэта вотчына прэзідэнта Парашэнкі.

***— Якія тэндэнцыі ў працы ўкраінскай сістэмы аховы здароўя ў постмайданаўскі перыяд?***

— Асноўная — моцная бюракратызацыя на фоне скарачэння медперсаналу. За апошнія тры гады я чатыры разы наноў запаўняла анкеты і дакументы з прычыны змены канцэпцыі працы ўчастковых лекараў. Прычым адзін раз — «бо ранейшыя анкеты былі ў паліклініцы згубленыя». Сэнсу ў такіх працэдурах нуль. Адначасова ў медустановах ідзе працэс паступовай прыхаванай камерцыялізацыі. Напрыклад, для праходжання медагляду патрэбныя аналізы, якія можна здаць не ў паліклініцы, а выключна ў канкрэтнай фірме і, натуральна, зусім не бясплатна. Ад іншых фірмаў даведкі пра аналізы ўрач не прымае. Тое ж самае з рэцэптамі на лекі, якія ёсць выключна ў крамах канкрэтнай аптэчнай сеткі.

***— Якія рэформы галіны патрэбныя, каб застрахавацца ад падобных вынікаў эпідэмій у будучым?***

— Па заявах міністра, ва ўсіх выпадках са смяротным зыходам вінаватыя самі пацыенты, паколькі яны позна звярталіся ў медыцынскія ўстановы і лячыліся дома самі. Сістэмны правалаў, такім чынам, чыноўнікі не бачаць і цяперашнюю праблему грыпу, мяркуючы па ўсім, будуць вырашаць за кошт закупак медпрэпаратаў за мяжой. Што тычыцца маштабных рэформаў, то пасля Майдану былі размовы наконт таго, каб развіваць у краіне страхавую медыцыну. Аднак імклівае падзенне ўзроўню жыцця большасці насельніцтва пахавала такія планы. У прынцыпе, калі нейкія рэформы і праводзіць, то ўжо з новым урадам. Рэйтынг цяперашняга Кабміну настолькі нізкі, што народ інстынктыўна не верыць у яго ініцыятывы.




Фота www.sq.com.ua

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Нурсултан Назарбаеў



Прэзідэнт Казахстана гуляе ў вялікага дэмакрата. Па яго ініцыятыве 13 студзеня дэпутаты заклікалі прэзідэнта распусціць парламент і абвясціць новыя выбары. Тыя выбары, як гаворыцца ў заяве дэпутатаў, павінны кансалідаваць грамадства перад стартам запланаваных антыкрызісных рэформаў. 21 снежня Назарбаеў распусціў паслухмяны парламент і прызначыў на 20 сакавіка датэрміновыя выбары. Улічваючы маргінальны стан казахскай апазіцыі, мала верыцца, што партыйны ландшафт у новым парламенце будзе іншы (цяпер усе парламентарыі належаць да праўладных партый). Ёсць думка, што датэрміновыя выбары патрэбныя для таго, каб заканадаўчы орган прайшлі людзі з акружэння пераемніка Назарбаева. У першую чаргу, як пішуць эксперты, гэта могуць быць людзі Дарыгі Назарбаевай (старэйшай дачкі прэзідэнта, якая займае пасаду намесніка прэм'ер-міністра Казахстана). Магчыма, яна на дадзеным этапе нацэлена на тое, каб кіраваць краінай, знаходзячыся на якой-небудзь ключавой пасадзе, напрыклад спікера парламенту. Між тым, шэраг палітолагаў успрынялі ідэю новых выбараў як знак абсалютнай адарванасці назарбаеўскай каманды ад народу. Выбары пройдуць па слядах нядаўняй стопрацэнтнай дэвальвацыі тэнге і, відавочна, стануць дадатковым фактарам раздражнення насельніцтва.

### Эмануэль Макрон



Міністр эканомікі Францыі ў складзе ўраду сацыялістаў нечакана, напэўна, таксама і для сябе, стаў фаварытам прэзідэнцкіх выбараў 2017-га. Усё дзякуючы модзе на ўнутрыпартыйныя праймерыз. Яшчэ ўчора лічылася, што сацыялістам не патрэбныя новыя імёны, паколькі кандыдатам аўтаматычна павінен стаць цяперашні прэзідэнт Франсуа Аланд. Аднак у апошнія дні настроі электарату сацыялістаў рэзка змяніліся. Апытанні фіксуюць, што 85 працэнтаў сябраў сацпартыі жадаюць правядзення праймерыз. Калі яны адбудуцца, то Аланд, паводле тых жа апытанняў, можа разлічваць на смешныя пяць працэнтаў падтрымкі. Лідары патэнцыйных праймерыз — прэм'ер-міністр Мануэль Вальс (15 працэнтаў) і Эмануэль Макрон, якога гатовыя падтрымаць 19 працэнтаў. У дадатак сацыёлагі кажуць, што Макрон у выпадку выхаду ў другі тур здольны перамагчы Марын Ле Пэн, кандыдата ад правай партыі «Нацыянальны фронт», фаварыта выбараў 2017 года. Сам Макрон пакуль не каментуе гэты вынік. Аднак у любым выпадку запыт на нейкага новага левага кандыдата сярод сацыялістаў адчуваецца. На днях Аланд падтрымаў ідэю ўвесці ў французскім пашпарце графу «нацыянальнасць», што шматлікія сацыялісты трактуюць як здраду рэспубліканскім прынцыпам.

### Альберта Радрыгес



Дэпутат іспанскага парламента ад левараадыкальнай партыі «Podemos» стаў героем першага пасяджэння новага парламента, абранага ў снежні мінулага года. Усё дзякуючы сваёй прычосцы, незвычайнай для палітычнай эліты. Альберта носіць дрэды. Такі выгляд дэпутата выклікаў сапраўдны шок у кансерватыўнай фракцыі дэпутацкага корпусу. Адна дэпутатка з «Народнай партыі» нават выказала занепакоенасць з-за таго, што ў валасах Альберта могуць прысутнічаць вошы, якія здольныя заразіць іншых парламентарыяў. У выніку грамадства пераключылася на незвычайную дыскусію — наколькі небяспечныя дрэды для гігіены, і асабліва для дэпутатаў. Сам віноўнік скандалу лічыць, што істэрычная рэакцыя кансерватараў на яго знешнасць — праява страху перад новай эрай у іспанскай палітыцы, якую прадстаўляе Радрыгес і яго партыя «Podemos». Радрыгес таксама паведаміў, што за чатыры гады (столькі ён носіць дрэды) ніхто з яго атачэння не скардзіўся на нейкія гігіенічныя праблемы. Між тым, на фоне дэбатаў вакол вошай іспанцы практычна праспалі значна больш важную навіну. Кіраўніцтва партыі сацыялістаў пастанавіла не фармаваць з кансерватарамі ўрадавую кааліцыю. Паколькі іншыя партыі таксама не гараць жаданнем уваходзіць з «Народнай партыяй» у блок, узнікае перспектыва новых, пазатэрміновых парламенцкіх выбараў.

# Непапраўны шасцідзясятнік Васіль Сёмуха

Сяргей ШАПРАН


Васіль Сёмуха з Алесем Камоцкім і Рыгорам Барадуліным

**Васілю Сёмуху — 80. Калі б Васіль Сяргеевіч пераствары́ў па-беларуску толькі Біблію ці толькі «Фаўста», то ўжо адным гэтым назаўсёды ўпісаў бы сваё імя ў гісторыю айчыннай культуры.**

Яго лёс складваўся драматычна ад самага пачатку — яго бацькоў у 1942-м расстралялі фашысты. Здавалася б, сын лесніка павінен быў узненавідзець усё нямецкае, але Васіль Сёмуха, паступіўшы на рамана-германскае аддзяленне філалагічнага факультэта Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, наадварот, захапіўся нямецкай мовай і ўжо ў 23 гады пачаў перакладаць «Фаўста» І.-В. Гётэ.

«Мама ведала нямецкую мову, таму і я павінен быў яе вывучыць, — скажа ён падчас адной нашых з ім гутарак. — Ужо пасля прыйшло асэнсаванне таго, што калі вывучу мову, дык знайду ў немцаў адказы на свае дзіцячыя пытанні: чаму і за што забілі маіх родных?.. З цягам часу нямецкая мова захапіла мяне, і я зразумеў, што нельга жыць нянавісцю да гэтай вялікай нацыі, якая ў той час знаходзілася пад дыктатурай».

У 1967-м ён быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў. Рэкамендацыю даў у тым ліку яго блізкі сябар Уладзімір Караткевіч:

«…Ведаю Васіля Сяргеевіча Сёмуху некалькі гадоў, з тых часоў, калі ён быў рэдактарам адной з маіх кніг. Рэдактарам зычлівым, высокакультурным, суровым ва ўсім, што датычылася таго, каб кніга зрабілася лепшай. Тое самае могуць сказаць і іншыя пісьменнікі, кнігі якіх ён рэдагаваў. Пачуццё стылю, выключнае веданне моў і, перш за ўсё, сваёй, беларускай, аж да тых тонкасцяў яе, да якіх ведаюць яе лічаныя, веданне ўсіх яе стыхій, дыялектаў, гаворак, арго — рабіла заўсёды неацэнную дапамогу людзям, якіх ён рэдагаваў. Вельмі карыснае было, таксама, веданне ім некалькіх іншых моў. Наколькі я магу меркаваць — дасканалае веданне.

Я не казаў бы пра гэта, каб усе тыя якасці спаўна не выявіліся ў яго перакладах. Ён выпусціў у свет некалькі перакладаў кніг нямецкай літаратуры, сярод якіх я лічу асабліва ўдалым пераклад кнігі Людвіга Рэна. Часамі мне даводзіцца чуць аб гатовых працах, якія ляжаць у яго ў партфелі, перакладах з Шылера, Гейне, Навaліса, Рыльке.

Некаторы час таму назад В. Сёмуха скончыў вялікую, амаль неверагодную па маштабу працу: першы пераклад на беларускую мову «Фаўста» Гётэ. Я сачу за гэтай працай даўно і адзінае, што выклікае ў мяне непаразуменне, гэта тое, што пераклад дагэтуль не надрукаваны, не выдадзены асобнай кніжкай.

Шмат людзей ужо чыталі яго, і таму я магу казаць аб перакладзе «Фаўста», як аб перакладзе высокамастацкім, выключна-дакладным, паэтычным. Гэта сам Гётэ і, у той жа час, Гётэ, які, нібыта, напісаў сваю вялікую паэму па-беларуску. Я ведаю некаторыя пераклады паэмы і смела лічу, што пераклад В. Сёмухі па мастацкай дакладнасці вышэй за рускі пераклад Пастарнака і роўны з лепшым, дагэтуль, латышскім перакладам Я. Райніса (дарэчы, Сёмуха ў працэсе працы вывучыў гэты пераклад, як і шматлікія іншыя, дзеля таго, каб ведаць вопыт перакладчыкаў і пазбегнуць іхніх памылак; ён ведае латышскую мову і перакладае цяпер, а мо і пераклаў ужо, драму Я. Райніса «Агонь і ноч»).

Лічу, што такі перакладчык — вялікі набытак для нашай пісьменніцкай арганізацыі…»

Выданне перакладу «Фаўста» было запланавана на другую палову 1960-х, а пасля ўвогуле перанесена на 1971 год. У выніку Сёмуха быў вымушаны звярнуцца ў сакратарыят СП БССР з просьбай падтрымаць яго хадайніцтва пра перанясенне тэрмінаў выдання «Фаўста» на 1968 год. Аднак размова па-ранейшаму ішла пра перспектыўныя планы. Што і прымусіла перакладчыка пайсці на рызыкоўны крок — у снежні 1967-га ён звярнуўся да пасла ФРГ у Маскве з лістом:

«Прашу Вас, пан пасол, раз'ясніць мне наступнае: у сувязі з тым, што германскія акупацыйныя ўлады ў 1942 годзе знішчылі ўсю маёмасць маёй сям'і, а таксама расстралялі маіх бацькоў, я б хацеў ведаць, ці магу я прэтэндаваць на атрыманне ад ураду ФРГ адпаведнай кампенсацыі за нанесены страты, якой дастаткова для

а) будаўніцтва новай кватэры;
б) выдання «Фаўста» Гётэ, перакладзенага мною на беларускую мову і не выдадзенага ў сувязі з нерэнтабельнасцю яго публікацыі на беларускай мове».

Аднак гэты ліст, перададзены Сёмухам у Міністэрства замежных спраў БССР, быў накіраваны не ў пасольства ФРГ, а… у ЦК КПБ, адтуль — у Саюз пісьменнікаў. У выніку пачаўся разбор персанальнай справы перакладчыка — спачатку на сакратарыяце, затым на прэзідыуме СП БССР. Вердыкт амаль аднадушнага галасавання — выключыць з шэрагаў СП «за недастойны члена Саюза пісьменнікаў учынак, які выразіўся ў тым, што В. Сёмуха з мэтай палітычнага шантажу і вымагацельства імкнуўся звязацца з пасольствам ФРГ у Маскве, паклёпніцкі скардзіўся пасольству, што Саюз пісьменнікаў адмаўляецца даць яму кватэру, а выдавецтва адмаўляецца выдаваць пераклад на беларускую мову «Фаўста» Гётэ, пытаўся аб магчымасці выдання гэтага перакладу ў ФРГ». Супраць быў толькі Васіль Вітка, Васіль Быкаў устрымаўся.

Пераклад убачыў свет толькі ў 1976-м, і з таго часу вытрымаў не адно перавыданне. Больш за тое, ён быў названы немцамі найлепшым перакладам «Фаўста» на славянскія мовы. Сам Васіль Сяргеевіч цераз год быў зноў прыняты ў Саюз пісьменнікаў, і хоць яму прапанавалі проста ўзнавіцца, ён прынцыпова прайшоў усю працэдуру ўступлення ў СП ад самага пачатку…

Цяпер у яго творчым набытку не толькі пераклады вышэй прыгаданых аўтараў, але і Г. дэ Бройна, Ю. Брэзана, Ш. Гайма, Г. Гейнэ, Г. Гесэ, Г. Гофэ, Я. Грымельсгаўзэна, Ф. Дзюрэнмата, П. Зюскінда, Г. Майрынка, Ф. Ніцшэ, Р.-М. Рыльке, Г. Фалады, Ф. Фюмана, Ш. Хэрмліна, Ф. Шылера. Невыпадкова Сёмуха быў узнагароджаны «Залатым Знакам Гонару» ГДР (1981) і ордэнам «За заслугі перад Федэратыўнай Рэспублікай Германіяй» (2001). У сваю чаргу Латвійская Рэспубліка ўганаравала яго найвышэйшай узнагародай — «Ордэнам Трох Зорак». Што ж тычыцца роднай Беларусі, дык за пераклад «Доктара Фаўстуса» Томаса Мана Сёмуха атрымаў Дзяржаўную прэмію імя Якуба Коласа, але было гэта ў далёкім 1992-м. Першай жа і апошняй «узнагародай» лукашэнкаўскай Беларусі было звальненне з выдавецтва «Мастацкая літаратура». Зрэшты, калі яшчэ напярэдадні 70-годдзя запытаўся ў Васіля Сяргеевіча, ці ёсць у яго ўзнагароды ад сучасных беларускіх уладатрымцаў, ён адказаў: «Ёсць — яны мяне не друкуюць. І я лічу гэта ўзнагародай. Увогуле было б абразай атрымаць узнагароду з гэтых рук».

Увогуле, спіс замежных аўтараў, якія дзякуючы Сёмуху «загаварылі» на мове Максіма Багдановіча і Янкі Купалы, можна доўжыць і доўжыць: гэта і латышы А. Бэлс, В. Бэлшавіца, Э. Вілкс, Л. Думберс, І. Зіеданіс, А. Клявіс, В. Лаціс, Э. Лук'янскіс, Я. Райніс, З. Скуіньш, А. Чакс, М. Чаклайс, Р. Эзера, К. Элсбергс; палякі В. Гамбровіч, Я. Гушча, М. Канапніцкая, А. Каспровіч, А. Міцкевіч, Ц. Норвід, Ю. Славацкі, Г. Тракль, Ю. Тувім, Ф. Фарнальчык; украінцы Ю. Гойда, І. Калянік, А. Капштэйн… Нават пры самым дакладным пераліку ўсё роўна застаецца небяспека некага не назваць…

Яшчэ напрыканцы 1980-х Васіль Сёмуха распачаў працу над перакладам Бібліі, кніг Святога Пісання Старога і Новага Запавету. Каб хоць у нейкай ступені ўявіць тытанічнасць гэтай невераемнай працы, прыгадаю сведчанне самога Васіля Сяргеевіча: «Хоць перакладаў я з царкоўнаславянскай мовы, але на кожным кроку кансультаваўся з іншымі перакладамі і каментарыямі, крытычнай літаратурай і працамі багасловаў. Перакладаў было шмат: сінадальны пераклад на рускую мову, пераклады на ўкраінскую, польскую, нямецкую, балгарскую і чэшскую мовы. Адзіны нецаркоўны пераклад, якім я карыстаўся, — гэта пераклад Францыска Скарыны. Скарына быў свецкім чалавекам і зрабіў працу, якую цэрквы дасюль не прызналі — на мой вялікі жаль і да сораму ўсіх цэркваў. Аднак больш за ўсё мяне цікавала, як тое ці іншае месца трактуюць праваслаўе і каталіцызм. Былі і пратэстанцкія пераклады. Вельмі мне дапамог пераклад Марціна Лютара, зроблены ў XVI ст., ён здаўся мне найбольш пераканаўчым і зразумелым, чым рускі сінадальны і пазнейшыя нямецкія…»


Васіль Сёмуха з дачкой Алесяй

З выданнем перакладу Біблііі таксама ўзніклі праблемы. Кніга магла з'явіцца і раней — дзякуючы біблійнай камісіі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы ЗША і Канады, у супрацоўніцтве з хрысціянскай місіяй Global Missionary Ministries (Канада), аднак Алеся Сёмуха, дачка Васіля Сяргеевіча, якой і належаць аўтарскія правы на пераклад, выказалася за тое, каб першае выданне выйшла абавязкова ў Беларусі. «І хаця мы страцілі на гэтым шмат грошай, але я быў у захапленні ад такога рашэння Алесі, — прызнаваўся пасля Васіль Сяргеевіч. — Я задаволены больш нават тым, што Бог даў мне такіх добрых дзяцей, якія не толькі разумеюць мяне, але і сталі апірышчам у гэтай справе — менавіта дачка Алеся і сын Сяргей збіралі грошы на гэтае выданне. Я толькі з жалем магу канстатаваць, што ні дзяржава, ні грамадскія аб'яднанні — грамадзянскія і царкоўныя — не дапамаглі ў гэтай справе. Дапамагла беларуская дыяспара Амерыкі, Канады, Аўстраліі і Еўропы, а таксама нашы прадпрымальнікі, якія лепей за дзяржаву разумелі важнасць гэтай справы».

…Васіль Сяргеевіч, самотнік па характары, неяк прызнаваўся падчас адной нашых з ім гутарак: «У мяне шмат нявыдадзеных кніг, якія беларускі чытач, мабыць, ніколі не ўбачыць. Гэта, відаць, датычыцца ўсіх маіх кніг і перакладаў: кніга дарагая мне, калі яна знаходзіцца ў стане рукапісу, калі я гаспадар над ёй кожны дзень, кожную хвіліну і што хачу, тое і раблю. Аднак як толькі кніга падрыхтавана (і яшчэ нават не надрукавана), яна мяне больш ужо не цікавіць — не цікавіць менавіта як кніга. Яна цікавіць мяне толькі як чужы твор, які я магу, атрымліваючы сваю асалоду, чытаць і перачытваць».

Для Васіля Сяргеевіча заўсёды было не так ужо істотна, колькі чалавек прачытае яго пераклады — тры, пяць, дзесяць… З тым ён жыў і жыве, імкнучыся зразумець сваіх ворагаў і адначасова не толькі па-біблейску даруючы ім, але і ўсё жыццё памнажаючы славу іх вялікай літаратуры. Дон-кіхоцкія перакананні непапраўнага шасцідзясятніка. І, безумоўна, бескарыслівае служэнне беларускаму слову, сусветнай і роднай літаратуры, якое не мае аналагаў у яго Айчыне. На гэта здольны толькі сапраўдны Майстар. Майстар і, вядома, Паэт (бо ці мог не паэт адважыцца на пераклад «Фаўста»?). У гэтым сэнсе незвычайны прыклад Васіля Сёмухі — выключны.

**Фота Сяргея Шапрана**

# Франкамоўная беларусіка лонданскай Скарынаўкі

Уладзіслаў ГАРБАЦКІ, Вільня

**Акрамя нядаўняй нечаканай знаходкі друкапісу раману, напісанага пасля Другой сусветнай вайны невядомым беларусам па-французску «Jean et Jacques, ou le Faux paradis», у нетрах лонданскай Скарынаўкі знаходзяцца і іншыя цікавосткі па-французску пра Беларусь.**

Франкамоўная беларусіка досыць прыстойна прэзентаваная ў фондах бібліятэкі і ахоплівае творы, артыкулы, што з'яўляліся ад XIX стагоддзя да цяперашняга часу.

Здаецца, больш поўныя фонды франкамоўнай беларусікі лагічней было б шукаць у Францыі ці Бельгіі, але адзначым адразу, што ў тамтэйшых славістычных цэнтрах і бібліятэках беларусіка раскіданая і не сабраная ў адно. Тое-сёе, дарэчы, з франкамоўнай беларусікі можна знайсці ў мінскай Нацыяналцы (працы Рэнэ і Антуана Мартэляў, напрыклад), але па ідэалагічных матывах, а яшчэ, канечне, проста праз адсутнасць інтарэсу да тэмы, гарманічнай і поўнай калекцыі так і не склалася.

Таму вельмі зручна і дасюль актуальна ехаць проста ў Лондан, каб папрацаваць з франкамоўнымі тэкстамі па гісторыі, палітыцы і культуры Беларусі. І калі беларусам такая прапанова малацікавая, яна адрасуецца хутчэй цяперашнім франкафонам.

З усяго масіву беларусікі па-французску вымалёўваюцца наступныя пласты:

1. Выданні пра Беларусь, пра беларускую тэму, напісаныя французскімі, бельгійскімі ці іншымі франкамоўнымі аўтарамі (Р. Мартэль, М. Жабэр, А. Мартэль, Я. Сяменскі і іншыя).
2. Выданні беларусаў па-французску (пераклады працаў Доўнар-Запольскага, тэксты Л. Рыдлеўскага, Я. Менскага, К. Акулы).
3. Перыёдыка («La Nation Géorgienne», «Bulletin» ці больш новыя «Perspectives biélorussiennes»).
4. Пераклады з французскай мовы на беларускую і наадварот.
5. І апошні вельмі цікавы і маладаследаваны пласт — эпісталярышчына, справаздачы, мапы па-французску.

Няма ані сэнсу, ані часу падрабязна спыняцца на ўсіх адзінках на сёння такой экзатычнай — франкамоўнай — беларусікі. Тым не менш, варта пазначыць актуальнасць і карыснасць многіх даследаванняў, зробленых франкафонамі ў «беларускім пытанні». Таксама неабходна разумець каштоўнасць гэтага пласту беларусікі, бо ў канцы XIX — першай палове XX стагоддзя свет размаўляў, пісаў па-французску, змагаўся і да-


TRAVAUX ET MÉMOIRES DE L'UNIVERSITÉ DE LILLE
NOUVELLE SÉRIE : DROIT ET LETTRES. — № 20

LA
LANGUE POLONAISE
DANS LES PAYS RUTHÈNES
UKRAINE ET RUSSIE BLANCHE
1569-1667

PAR
ANTOINE MARTEL
MAÎTRE DE CONFÉRENCES À LA FACULTÉ DES LETTRES DE LILLE

AVEC UNE PRÉFACE
PAR
ANDRÉ MAZON
PROFESSEUR AU COLLÈGE DE FRANCE

LILLE
—
1938
Tous droits réservés

водзіў свае думкі таксама праз пасярэдніцтва французскай мовы. А таму гэты этап і дадзены пласт беларусікі нясе ў сабе часам рэдкую і каштоўную інфармацыю, а таксама сведчыць аб тым, што стасункі паміж беларусамі і французамі, бельгійцамі, швейцарцамі ці квебекцамі-канадцамі развіваліся здаўна, нават тады, калі не існавала беларускай дзяржавы.

Так, ужо проста праз аналіз назвы, якую даваў франкамоўны свет Беларусі, можна пабачыць інтэнсіўнасць, а часам і напружанасць, ідэалагізаванасць адносінаў, якія звязвалі

**Былі на франкамоўным Захадзе асобы, якія цікавіліся Беларуссю, даводзілі, што ёсць такая краіна — Беларусь**

нас з Захадам, франкамоўным Захадам у прыватнасці.

З улікам таго, што сёння незалежная Беларусь, як, дарэчы, і Захад, цалкам ігнаруюць той досвед кантактавання, яшчэ цікавей даведацца пра забытыя адносіны.

Так, першапачаткова франкамоўны свет ведаў нас пад назвай la Lituanie альбо la Russie lituanique, потым нас называлі la Russie Blanche, la Ruthénie, la Ruthénie blanche, la Biélorussie, зноў la Russie Blanche. Пасля Другой сусветнай вайны замацавалася назва la Biélorussie (Беларусія). І толькі нядаўна з набыццём незалежнасці для некаторых франкафонаў мы сталі le Bélarus (Беларусь).

Францыя — у адрозненне ад Бельгіі, Швейцарыі ці Канады — працягвае па русафільскай традыцыі і інерцыі называць нас la Biélorussie. Аанаўская франкафонія разам з Канадай прынцыпова стаяць за le Bélarus. За гэтым пэўным канфліктам у прэзентацыі назвы нашай краіны стаіць забытая і ўпартая барацьба.

У 1930-я гады, і асабліва пасля Другой сусветнай вайны, калі сотні тысяч (калі не мільёны) беларусаў апынуліся па-за межамі Беларусі, у Францыі ў прыватнасці, тамтэйшая дыяспара вяла сур'ёзны бой за назву, за тое, каб беларусаў не запісвалі рускімі, палякамі ці пазней савецкімі грамадзянамі.

Леў Гарошка, адзін з лідараў беларускай дыяспары Францыі, разам з Міколам Абрамчыкам пісалі процьму лістоў у міністэрствы, у прэсу, абапіраліся на дапамогу Ватыкану, Касцёлу ў Францыі і дамагліся, каб беларусаў з Польшчы і СССР запісвалі беларусамі. Але ўмяшанне савецкай амбасады, празмернае і часам сляпое русафільства французскіх элітаў і, канечне, асіміляцыя ды знікненне беларусаў у Францыі прывялі да таго, што паступова змаганне за назву згубіла сэнс, і нас зноў пачалі называць і запісваць рускімі, палякамі, савецкімі ці ўкраінцамі. А самі змагары-актывісты дасюль застаюцца малавядомымі ў Беларусі, ці зачастую сумна- ці чорнавядомымі, дыскрэдытаванымі і зняшанымі з калабарантамі ды «заходнікамі».

Многія цяперашнія беларусы едуць у Парыж ці Брусэль як цалкам «новая нацыя», сілячыся патлумачыць Захаду пэўную ўласную спецыфіку і наогул давесці, дзе тая Беларусь. Але бальшыня беларусаў нічога




нікому не даводзіць, а едуць на Захад як расіяне, як савецкія людзі.

І тым не менш, былі на франкамоўным Захадзе асобы, якія цікавіліся Беларуссю, рэгіёнам, і якія даводзілі ў сваім свеце, што ёсць такая краіна — Беларусь. Тэксты многіх такіх адважных франкамоўных асобаў захоўваюцца ў Скарынаўцы. Мусіць, надышоў час вяртання з нябыту піянераў франкамоўнай беларусікі.

Каго з іх варта першым вяртаць з нябыту? Мяркую, варта пачаць з Мартэляў — Рэнэ і Антуана, якія стаялі на самым золку франкамоўнай беларусікі. Яны — не браты і нават не родныя, у іх проста падобнае прозвішча.

Пачнём з Антуана Мартэля, паланіста, русіста, украініста і, канечне, беларусіста, хоць праз стрыманасць ды малаамбітнасць беларусы не ведаюць яго, а калі і ведаюць, то не лічаць за даследніка беларускай тэмы. А гэта пры тым, што Антуан Мартэль крытычна і слушна адказаў на такое пытанне: «Чаму ж занепала старабеларуская мова?»

Малады і перспектыўны французскі славіст-мовазнаўца хрысціянскага натхнення (1899–1931), аўтар анталогіі ўкраінскай літаратуры, манаграфіі пра Ламаносава і станаўленне рускай мовы, а таксама манаграфіі, прысвечанай польскай мове на рутэнскіх землях (Беларусі і Украіне) у XVI–XVII стагоддзях, у 1920-я гады не аднойчы наведваў Польшчу і СССР з мэтай працы ў бібліятэках. У 1927 годзе славіста амаль сілай выгналі з СССР, бо даследнік і актыўны хрысціянін са спачуваннем сачыў за тым, як нішчацца цэрквы ў СССР. А таму часцяком ГПУ бачыла яго ў кампаніі розных рэлігійнікаў. Даследнік памёр у 1931 годзе ад сухотаў, так і не пабачыўшы апошніх сваіх працаў у форме кнігаў.

Ён пільна сачыў за тым, што робіцца ў Беларусі, як развіваецца сучасная беларуская мова. Вольны і смелы ў сваіх развагах, аўтар да ўсяго і крытычны, незаангажаваны ў беларускі, украінскі ці рускі рух, цвяроза аналізаваў сітуацыю. Перадусім Антуан Мартэль выправіў расійскіх гісторыкаў, якія цвердзілі, што нібыта амаль гвалтоўны і прымусовы пераход беларускай і ўкраінскай арыстакратыі ў каталіцтва спавадаваў паланізацыю — якраз наадварот, каб стаць палякамі ці наблізіцца да Кароны, мясцовая арыстакратыя сама і выбрала каталіцтва. Бо рутэнская мова была ў тупіку, нераспрацаванай, штучнай і абмежаванай. І выбар гэты абумовіў далейшае культурна-моўнае развіццё рэгіёну. Рутэнская мова (старабеларуская і стараўкраінская) занепала проста таму, што свае эліты выбралі спачатку хаўрус з Каронай, а затым і іншую мову як мову публічную — польскую, якая была адкрытая еўрапейскім павевам і праз якую ў краіну прыходзілі ўсе тагачасныя веды ды навука. Пазней, калі змяніцца геапалітычная і ідэалагічная сітуацыя ў рэгіёне, і Расія зойме месца Кароны, на рутэнскіх землях запануе зноў не мясцовая мова, а мова іншай метрапольнай краіны.

Старабеларуская мова была, на думку славіста, досыць адарванай ад рэальнага жыцця і ніхто — ані з рэлігійнікаў, ані са свецкіх — не прыйшоў ёй на дапамогу, не ўзяўся за яе развіццё і рэфармаванне. Яна так і засталася размоўнай мовай бяднейшых, пазбаўленых правоў, улады і ўплыву на палітыку пластоў насельніцтва. У дадатак, пасля трыумфу польскай мовы, старабеларуская цалкам перайшла ў прыватнае і да ўсяго вуснае рэчышча. Як удала заўважыў у заканчэнні сваёй кнігі Антуан Мартэль, у XVI–XVII стагоддзях палітыка рабілася ў салонах, палацах, замках, а там размаўлялі пераважна па-польску, таму публічнай мовай бальшыні і стала польская мова.

Пры гэтым сітуацыя з маргіналізацыяй старабеларускай мовы зусім не выключная, у іншых кутах Еўропы адбывалася падобнае. Так, брэтонцы, правансальцы станавіліся паступова франкамоўнымі ў публічнай прасторы, баскі ці каталонцы станавіліся іспанамоўнымі. І занапад гэты Антуан Мартэль не раіць трактаваць праз прызму сучаснага нацыятворчага і тым больш нацыяналістычнага працэсу, распачатага Французскай рэвалюцыяй: у XVI–XVII стагоддзях мова не з'яўлялася прынцыповым чыннікам нацыянальнай еднасці, гэта месца тады займалі супольныя вераванні.

Зрэшты, будзьма шчырымі з сабою, амаль ніхто і не пратэставаў у ВКЛ супраць пераходу на польскую мову. Так сталася амаль натуральна, але французскі славіст усё адно думаў пра далейшы лёс старабеларускай мовы, якую ў даследаванні называў «рутэнскай мовай» ці «блан-русен». Забароненая, яна працягвала існаваць і абслугоўваць ніжэйшыя і бяднейшыя пласты насельніцтва. І ў будучыні, якую заспеў мовазнаўца ў 1920-я гады, паўстанне літаратурнай беларускай і ўкраінскай моваў якраз сталася працягам і выйсцем з працяглага крызісу рутэнскай мовы, распачатага аж у XVI стагоддзі.

Канешне, многія сёння могуць аспрэчыць сцверджанні французскага славіста, але застаецца нязменным факт занападу старабеларускай мовы ў выніку нераспрацаванасці і нядбайнасці саміх (стара)беларусаў.

Праўда, і ў сённяшняй Францыі імя Антуана Мартэля забытае. Але, мяркую, якраз місія беларусаў і палягае не проста ў рэабілітацыі і вяртанні важных тэкстаў, але імёнаў, асобаў, якія спрычыніліся да распаўсюду ведаў пра нашу культуру. Збор невялічкай, але важнай калекцыі франкамоўнай беларусікі ў Скарынаўцы дапамагае нам лацвей распачаць працэс вяртання забытых герояў.

*У наступным артыкуле чытайце пра працы і дзейнасць Рэнэ Мартэля і пра тое, які ўнёсак зрабіў даследнік у развіццё гэтак званага «беларускага пытання», як яно гучала ў Францыі ў 1920–1930-я гады.*

# Кіберспорт: Гуляй і перамагай

Павел АКСІНОВІЧ

**З 13 па 17 студзеня ў «Мінск-Арэне» прайшла фінальная частка «SL i-League StarSeries Minsk» — міжнароднага турніру па дысцыплінах «CS:GO» і «Dota 2».**




**«Evil Geniuses» — пераможца сустрэчы і фаварыт турніру**



**Кіберспорт па падтрымцы трыбунаў мала чым адрозніваецца ад хакею**

Агульны прызавы фонд склаў звыш 500 тысяч долараў. Паводле інфармацыі білетных апаратараў, усе квіткі на фінал спаборніцтва былі раскупленыя.

Арганізатарамі турніру выступілі кітайская кампанія «ImbaTV» і ўкраінская кіберспартовая пляцоўка «StarLadder». У спаборніцтве прынялі ўдзел 12 мацнейшых камандаў з ЗША, Еўропы і Далёкага Усходу.

Цікавы факт: самая прыбытковая кіберспартовая дысцыпліна — «Dota 2». Гульня ўжо абышла такія віды спорту, як гольф (максімальны прызавы фонд 10 мільёнаў долараў), баскетбол і хакей (па 13 мільёнаў). Прызавы фонд буйнейшага турніру склаў 18 мільёнаў долараў ЗША. З іх каманда-пераможца — а гэта пяць гульцоў — атрымала шэсць з паловай мільёнаў. Такія ганарары саступаюць толькі футболу: пераможца Лігі чэмпіёнаў УЕФА атрымлівае каля 50 мільёнаў, але ў футбольнай камандзе выступае мінімум 20 гульцоў.

Правілы гульні адносна простыя: прымаюць удзел дзве каманды па пяць чалавек, кожны гулец выбірае персанажа з больш чым сотні магчымых унікальных герояў. Каб перамагчы, трэба дабрацца да базы суперніка і знішчыць трон. Але, падобна шахматам, у гульні можна ўжыць дзясяткі камбінацый і стратэгій, якія залежаць ад выбраных герояў, а таксама прафесіяналізму гульцоў. Таму кожны матч праходзіць вельмі цікава і непаўторна. Прафесійныя матчы збіраюць перад экранамі манітораў сотні тысяч гледачоў.




**Пасля завяршэння матчу гулец каманды-пераможы Пітэр Дагер паразмаўляў з вядоўцам турніру**

Першыя айчынныя кіберспартовыя турніры праводзіліся ў кампутарных клубах у канцы дзевяностых — пачатку нулявых гадоў. Тады збіраліся аматары «Quake», «Starcraft», «Warcraft» літаральна за ўзнагароду ў месячны абанемент, а калі пашанцуе, то можна было атрымаць кампутар ці камплектуючыя да яго. Прычым даволі часта такія спаборніцтвы суправаджаліся тэхнічнымі праблемамі і «вылетамі» сервераў. Цяпер жа самы багаты беларускі кіберспартовец, двaццацiгадовы Арцём Баршчак, падзяліў са сваёй камандай 1,2 мільёна долараў на апошнім чэмпіянаце свету па «Dota 2».

Калі лічыць, што буйныя турніры па «Dota 2» праводзяцца толькі 5 гадоў і прызавыя фонды растуць у геаметрычнай прагрэсіі, з кожным годам буйнейшыя чэмпіянаты збіраюць мільёны гледачоў, то варта лічыць гэтую дысцыпліну вельмі перспектыўнай. Кожны ахвочы можа ўсталяваць гульню на свой кампутар, засвоіць правілы, сабраць каманду і ўдзельнічаць у розных спаборніцтвах. У выхаванні гульцоў не патрэбны арэны, снарады, умовы надвор'я, вялікае фінансаванне — і таму кіберспорт даволі хутка развіваецца.

ibis STYLES HOTELS

ibis.com
вул. Minsko 14, Вільнюс
HA076@accor.com
+370 5 2032282



Новы бюджэтны гатэль у Вільнюсе

Зручна:

Побач з магістраллю А3, якая вядзе ў Вільнюс

3,7 км да IKEA і вакзала (7 хвілін)

4 км да Вільнюскага міжнароднага аэрапорта (7 хвілін)

3,5 км да цэнтра горада (5 хвілін)

0,6 км да гарналыжных трас Liepkalnis (2 хвіліны)

Выгадна:

Бясплатная паркоўка

Сучасны рэстаран

Бясплатны трансфер да цэнтра горада, Вільнюскага аэрапорта, чыгуначнага і аўтобуснага вакзалаў

Кандыцыянеры і бясплатны Wi-Fi у пакоях

Kreta Ltd, г. Вільнюс, Літва

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Падпісацца на «Новы Час» можна, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі.

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.

**Падпісацца таксама можна ў рэдакцыі і ў нашых прадстаўнікоў:**

**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **32 000** руб. **I квартала — 90 000 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 65

Падпісана да друку 22. 01.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.